# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

## ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

31 МАЯ 1996 г. № 22 (3846) Кошт 2 500 руб.


## МОЎНЫ АСПЕКТ КУЛЬТУРЫ

***Леанід ЛЫЧ: "Такога страшэннага заняпаду беларускай прафесійнай культуры ў яе вербальным выражэнні мы яшчэ не перажывалі за ўвесь перыяд пасля кастрычніка 1917 г. І калі пакінуць усё так, як ёсць сёння, мы можам ужо ў першыя дзесяцігоддзі трэцяга тысячагоддзя застацца без нацыянальнай культуры, знікнуць з твару зямлі як самабытны этнас".***

**5**

## АНКЕТА "ЛіМа"

***Алесь АСТАШОНАК: "Я амаль не ведаю ў нашай літаратуры паэтаў "чыстай красы"... Але ўвогуле творы такога кшталту — гэта, бадай, званіца, якая напраўду ўзвышаецца, толькі не над мітуснёю быцця, а над ягонай трагікамічнасцю, якая спакваля перарастае ў чыстую трагедыйнасць і, не дай Бог, у яе перарасце".***

**6**

## ДЗЕ НАШ МАЙСЕЙ?

***Генрых ДАЛІДОВІЧ: "Гісторыя паказвае, што даволі лёгка можна абалваніць кожны народ. Наш — здаецца, надзвычай без вялікіх намаганняў: ён усё яшчэ ўніжаны і самаўніжаецца, без меры любіць легенды, верыць на хітрае слова".***

**8—9**



# МАСТАЦТВАМ АД... ЖЫЦЦЯ

...З юбілеем Ігара ВОЎЧАКА, нашага знанага аніматара, самым адметным чынам віншавалі ягоныя вучні. Маладыя людзі фламастэрамі распісвалі чыстую стужку, каб зрабіць сапраўдны віншавальны фільм. Рэдкая тэхніка. На Беларусі ўжываецца, у асноўным, калі бракуе сродкаў на тэхналогіі... Вучні й маладыя калегі менавалі сябе... партызаніматарамі і прапаноўвалі настаўніку выдатную зброю, каб бараніцца ад... навакольнага асяродзя. Мастацтвам — ад жыцця. Калі ўсё менш магчымасцяў здымаць пры ўмовах (якіх бы там ні было), застаецца, маўляў, толькі... здымаць анімацыйнае кіно... Адмысловую зброю складала нешта прыцэльнае, каб чаго важнага не прапусціць, ды каробка са стужкаю: партызаніматарскі аўтамат Воўчака...

19 мая ў вялікай зале кінатэатра "Кастрычнік" вечарыну вёў Леанід Ярмольнік. Згадвалі супольнае навучанне, не, не анімацыі, а музыцы, аднакласнікі яшчэ па музычнай школе, потым калегі-кансерваторцы — В. Дайнека ды Б. Бернштэйн. Якраз у тыя часы, калі "ўлюбёнай джазавай музыкай можна было займацца толькі ў рэстарацыях". Яны — займаліся. Песнямі віншавалі Ігара тыя, хто... не займаўся: трыо — Чаркаскі, Нарштэйн ды Назараў. Усё больш вядомыя свету як выбітныя анімацыйныя рэжысёры. Уладзімір Пузыня падтрымаў іх сваёй празрыстай жалейкай... Сябры, урэшце, сталі ў чаргу, а Ігару падалі крэсла. У гэтым крэсле, у абдымку з партызаніматарскай зброяй, пазначанай эмблемай юбілейных пяцідзесяці Воўчакавых гадоў, і пачалася гутарка з рэжысёрам, якую ў самы бліжэйшы час "ЛіМ" прапануе вашай увазе.

**Ж. Л.**

*Фота Віт. АМІНАВА*





**_У расійскім друку, а то і ў беларускім, раз-пораз гучыць пытанне: што будзе з Расіяй, калі да ўлады прыйдуць камуністы на чале з Зюганавым і ГКЧП? Адказ на гэтае пытанне не трэба далёка шукаць, ён — на Беларусі. Усё будзе гэтак, як і ў нас, толькі, мажліва, яшчэ жахлівей. Папулісцкія абяцанні і рэверансы ў бок Захаду будуць адразу ж "забыты". Пачнецца ўсё з замены трыкалора на чырвоны сцяг, а двухгаловага арла — на "хочаш жні, а хочаш куй..." Далей — згортванне прыватызацыі, барацьба з "мафіёзі" ў выглядзе камерсантаў і банкіраў, вяртанне дзяржаўнага манапалізму і планавай гаспадаркі, закрыццё апазіцыйных выданняў, забарона ўсіх партый, акрамя адной, і — поўны развал эканомікі... Можна намаляваць і перспектыву далей: шуканне і фізічнае вынішчэнне "ворагаў" — "сабатажнікаў", "служкаў імперыялізму", з-за якіх з крамаў зніклі каўбаса, запалкі, соль... Да апошняга ў Беларусі пакуль яшчэ не дайшло. Але заслуга ў гэтым — дэмакратычнай, ельцынаўскай Расіі. Што будзе ў нас пасля 16 чэрвеня? Каторы раз у Расіі вырашаецца і будучыня Беларусі..._**

## ЗАГАД ТЫДНЯ

Прэзідэнт Беларусі ў рэшце рэшт падпісаў даўно "праанансаваны" ўказ "Аб мерах па рэгуляванні банкаўскай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь". З усіх банкіраў прыхільна прыняць яго можа толькі хіба самы галоўны на сёння — Т. Віннікава. Астатнія амаль у шоку. Праўда, хутчэй за ўсё часовым, бо, па ацэнках спецыялістаў, ва ўказе шмат "дзірак", праз якія можна яго абысці. Аднак факт ёсць факт: прэзідэнт зрабіў спробу адзінаўладна кіраваць і на тэрыторыі, дзе ўладарыць павінны эканамічныя законы, а не ўказы...

## ДАВЫБАРЫ ТЫДНЯ

Канстытуцыйны суд Беларусі цяпер будзе працаваць у поўным складзе. Пасля двухдзённых абмеркаванняў і спрэчак дэпутаты парламента абралі ў КС Аляксандра Вашкевіча і Міхаіла Чудакова, якія набралі па 114 і 108 галасоў. Надзіва малым аказаўся "рэйтынг Д. Булахава" — за яго прагаласавалі ўсяго 40 дэпутатаў. Дэмарш "згодаўцаў", якія вельмі хацелі "дэмакратыі": каб палову суддзяў прызначала "другая галіна ўлады" — прэзідэнт сваімі ўказамі, не ўдаўся. Такім чынам, у адсутнасць свайго спікера С. Шарэцкага, парламент папрацаваў даволі плённа. Засталося яшчэ вярнуць выбаршчыкам адзін доўг: прызначыць давыбары ў Вярхоўны Савет, каб былі ў ім не толькі прадстаўнікі вёскі, але і буйных гарадоў.

## НАМЕР ТЫДНЯ

Намеснік старшыні Камісіі па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі Уладзімір Нісцюк заявіў аб сваім намеры пачаць збор подпісаў дэпутатаў за адстаўку спікера парламента С. Шарэцкага. Акцыя будзе мець папераджальны характар, патлумачыў У. Нісцюк, а прычына яе: *"палітычная сітуацыя ў рэспубліцы напаленая, у парламенце крайнія сілы сутыкаюцца лбамі, сацыяльныя выбухі наспяваюць, а Старшыня парламента паехаў турыстам... на два тыдні... глядзець амерыканскіх кароў... Цяпер ён прыехаў — едзе ў Бішкек... вернецца адтуль — ужо ляжыць запрашэнне ў Венгрыю... Гаспадара ў парламенце, адным словам, няма. Спікер хоча ва ўсім "дагадзіць", пакланіцца прэзідэнту, які сядзіць ззаду яго..."* і г.д. *("Звязда", 29 траўня г.г.)* Намер сур'ёзны і своечасовы. Толькі вось, ці атрымаецца з яго што? Сумняваецца ў гэтым, відаць, і сам У. Нісцюк. Інакш гаварыў бы не пра "папярэджанне", а пра адстаўку.

## ПЫТАННЕ ТЫДНЯ

БЕЛТА паведаміла, што прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка ўзнагароджаны прэміяй і ордэнам Андрэя Першазваннага — вышэйшай узнагародай Праваслаўнай царквы. Карэспандэнт радыё "Свабода" паспрабаваў высветліць, якім гэта чынам "свецкая асоба" была адзначана "царкоўным ордэнам"? У Маскоўскай патрыярхіі паведамілі, што гэтым ордэнам узнагароджаны адзінкі і выключна — главы цэркваў, патрыярхі. Лукашэнкі сярод іх няма. Праўда, ёсць нейкая грамадская ваенная арганізацыя, якая раздае "падобныя ўзнагароды, але да царквы яна ніякіх адносін не мае... Інфармацыя "Свабоды" пакуль афіцыйна не абвергнута. А таму пытанне застаецца адкрытым: дык ці быў ордэн? І калі быў — дык які, ад каго? І за якія "заслугі"?

## НАПАМІН ТЫДНЯ

Дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі А. Бухвостаў накіраваў на адрас прэзідэнта Беларусі запыт-патрабаванне рэгулярнага тэлэфіру. "Бухвостов рвётся в эфір" — гэтак пракаментавала факт запыту "Народная газета", забыўшы, пэўна, што менавіта сам прэзідэнт некалі падчас сустрэчы з прафсаюзамі, прынародна, на Беларускім тэлебачанні, паабяцаў "выдзеліць" на канале БТ 30 хвілін штотыднёва для прафсаюзнай перадачы.

## НЕДАЎМЕННЕ ТЫДНЯ

Стала вядома, хто і як галасаваў пры ратыфікацыі беларуска-расійскага пагаднення аб утварэнні ССР. "Супраць" прагаласавалі толькі тры дэпутаты: С. Багданкевіч, Л. Гразнова, А. Дабравольскі. Яшчэ тры "ўстрымаліся": А. Клімаў, Л. Майструк, В. Драно. Дванаццаць дэпутатаў не галасавалі зусім, сярод іх — В. Ганчар, Г. Карпенка, А. Лябедзька, П. Знавец... 164 дэпутаты прагаласавалі "за". Самае дзіўнае, што ў іх шэрагах аказаліся, здавалася б, такія прыхільнікі незалежнасці Беларусі, як П. Краўчанка, М. Грыб, В. Шлындзікаў і сам "белавежскі зубр" — Станіслаў Шушкевіч...

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Агульны доўг Беларусі за энерганосьбіты на 23 траўня г.г. склаў 6 трыльёнаў 393 мільярды 702 мільёны беларускіх рублёў. З пачатку 1996 года (!) доўг павялічыўся на 1 трыльён 512 мільярдаў 364 мільёны рублёў (у тым ліку, за расійскі газ — на 1 трыльён 77 мільярдаў 571 мільён рублёў, за мазут — на 140 мільярдаў 336 мільёнаў рублёў, за электраэнергію — на 178 мільярдаў 990 мільёнаў рублёў). Афіцыйныя выданні паведамляюць гэтыя факты без ніякіх каментарыяў і нават не згадваючы пра "нулявы варыянт". Сімптаматычна.

# КВЕТКІ ПАЭТУ

25 траўня адбылося ўскладанне кветак да помніка Максіму Багдановічу ў Мінску. На гэты раз ушанаваць памяць паэта прыйшло каля чатырохсот прыхільнікаў ягонай творчасці — вучні, моладзь, навуковая і творчая інтэлігенцыя. Тут можна было пачуць выступленні дырэктара музея М. Багдановіча А. Бяляцкага, паэтаў А. Разанава, М. Скоблы, перакладчыцы з Англіі В. Рыч, бардаў А. Камоцкага, А. Атаманава, Э. Акуліна. Прыгожа аздоблена гэта падзея была мастакамі пад кіраўніцтвам вядомага беларускага жывапісца А. Марачкіна.

Сёлета Дзень памяці паэта супаў з пятнаццатымі ўгодкамі заснавання музея М. Багдановіча, дзе прайшла *вечарына з гэтай нагоды.*

Па "традыцыі" і гэтая імпрэза не абышлася без канфліктаў з уладамі: некалькі ўдзельнікаў ўскладання кветак з бел-чырвона-белымі сцягамі былі затрыманы міліцыяй.

**Т. РАВЯКА**

# ЖЫЦЬ ВОЛЬНА І ГОДНА

## ЗАЯВА ГРАМАДСКАГА КАМІТЭТА АБАРОНЫ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ГІСТАРЫЧНАЙ СІМВОЛІКІ

Нашай дзяржаве пагражае небяспека — страта незалежнасці. Сённяшняе кіраўніцтва, няздольнае вывесці краіну з глыбокага эканамічнага крызісу, імкнецца схаваць сваё бяссілле ў далучэнні Беларусі да Расіі і ў рэанімацыі былой савецкай імперыі — СССР. З гэтай мэтай захоўваюцца на нашай зямлі расійскія вайсковыя аб'екты, зліквідаваны ўсходняя мяжа і мытні, падпісаны рабаўнічыя эканамічныя пагадненні.

Адначасна вядзецца франтальны наступ на галоўныя нацыянальна-вызначальныя каштоўнасці беларускага народа і асноўныя чыннікі дзяржавы — мову, культуру, гісторыю, нацыянальныя сімвалы. Інтэнсіўна знішчаецца беларуская школа і ўся сістэма выхавання і асветы, беларуская мова выцясняецца з усіх сфер ужытку, перапісваецца на імперскі лад школьныя падручнікі — нішчыцца гістарычная памяць; робіцца ўсё для разбурэння нацыянальнай самасвядомасці народа.

Ганебнай праявай гэтага наступу стаў інспіраваны антыбеларускімі шавіністычнымі сіламі майскі "рэферэндум", праведзены з відавочнымі парушэннямі Канстытуцыі і законаў дзяржавы, па пытаннях, па якіх нідзе ў цывілізаваным свеце народнае апытанне немагчыма. Але нават ва ўмовах бессаромнага гвалту над дэмакратыяй, афіцыйнага ўціску, кампаніі хлусні і падману ў сродках масавай інфармацыі больш за палову выбаршчыкаў выказалася за захаванне ў якасці дзяржаўных сімвалаў гістарычнай Пагоні і бел-чырвона-белага сцяга. Вынікі гэтага "рэферэндуму" не задавальняюць Вярхоўным Саветам і не маюць юрыдычнай сілы. Таму герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг адпаведна закону ад 19 верасня 1991 года з'яўляюцца афіцыйнымі дзяржаўнымі сімваламі Беларусі. Гвалтоўнае насаджэнне прэзідэнцкай сімволікі ў краіне незаконнае.

Гэтая фактычна нязмененая БССРаўская сімволіка, абразлівая і зневажальная для нашага народа, дае свету лжывае ўяўленне пра народ і краіну. Створаная насуперак законам геральдыкі эстэтыкі, яна пазбаўлена ўсялякага сэнсу. Нездарма ж прэзідэнтам на смех усяму свету абвешчаны конкурс на патлумачэнне ягоных сімвалаў. Марная справа, марная трата сродкаў.

Нацыянальную сімволіку нельга стварыць штучна, немагчыма і адмяніць яе загадам. Яна — выяўленне духу народа і мастацкае ўвасабленне народных эстэтычных і маральных каштоўнасцей.

Гісторыя нашай Айчыны асвечана спрадвечнымі нацыянальнымі сімваламі — гербам Пагоня і бел-чырвона-белым сцягам. Наша Пагоня — адзін з самых старажытных дзяржаўных гербаў у Еўропе і свеце. Яго ўзнікненне сягае ў глыбокую мінуўшчыну нашага народа. Летапіс зазначыў, што 700 гадоў таму, у канцы XIII стагоддзя, ён набывае статус дзяржаўнага. "Рыцар збройны на кані" сімвалізуе абаронцу Бацькаўшчыны, сведчыць пра неспатольную прагу нашага народа да Волі і Незалежнасці. На шчыце вершніка размешчаны залаты шасціканцовы крыж — сонечны знак Ярылы, сімвал веры *нябеснай заступніцы Беларусі* — Еўфрасінні Полацкай.

Белы і чырвоны — пракаветнасакральныя, улюбёныя колеры беларусаў. Чырвоная паласа на бялюткім тле палотнішча сцяга — гэта суладдзе чысціні і мужнасці, знак ахвярных Хрыстовых пакут, след пралітай за *Волю рыцарскай крыві.*

Нашы герб і сцяг — высокі ўзор эстэтыкі і мастацкай дасканаласці — яскравае сведчанне творчага генію народа.

Пад гэтымі святымі сімваламі нашы продкі здабылі найбуйнейшыя свае перамогі: на Сініх Водах і пад Грунвальдам, пад Оршай і на рацэ Вуле, пад Кірхгольмам і Хоцінам. Гэтыя сімвалы лунаналі над паўстанцамі Якуба Ясінскага, вялі на бой за незалежнасць Бацькаўшчыны касінераў Кастуся Каліноўскага, пад імі гінулі жаўнеры гераічнага Слуцкага Збройнага Чыну.

Усведамляючы надзвычайную важнасць нацыянальных гістарычных сімвалаў для захавання і ўмацавання незалежнасці дзяржавы, развіцця самасвядомасці нацыі, для гістарычнай будучыні народа, мы, прадстаўнікі патрыятычнай грамадскасці Беларусі, аб'ядноўваемся ў Грамадскі камітэт абароны беларускай нацыянальнай гістарычнай сімволікі.

Камітэт ставіць мэты:

— цывілізаванымі, не супярэчнымі законам краіны сродкамі, дасягнуць аднаўлення ў якасці дзяржаўных нацыянальных гістарычных сімвалаў герба Пагоня і бел-чырвона-белага сцяга;

— забяспечваць пастаянную прысутнасць нацыянальных гістарычных сімвалаў у жыцці краіны і народа;

— прапагандаваць нацыянальныя гістарычныя сімвалы, ажыццяўляючы асветную, даследчую, выставачную, выдавецкую ды іншую дзейнасць.

Камітэт абвяшчае 1996 год у Беларусі годам герба Пагоня і прапануе ўсім патрыятычна-дэмакратычным сілам, грамадскім і палітычным арганізацыям краіны правесці ў гэтым годзе святкаванне 700-х угодкаў яго дзяржаўнасці.

Камітэт звяртаецца да дэпутатаў Вярхоўнага Савета з заклікам не зацвярджаць вынікаў ганебнага майскага рэферэндуму, *стварыць* парламенцкую камісію па разглядзе адпаведнасці сфармуляваных пытанняў рэферэндуму Канстытуцыі і *законам Беларусі, расследавання* парушэнняў заканадаўства пры правядзенні рэферэндуму.

Камітэт заклікае ўсіх, каму дарагія *незалежнасць Айчыны і яе гістарычныя* сімвалы, далучыцца да Камітэта дзеля дасягнення ягоных мэт.

Мы перакананы, што наша Бацькаўшчына пераадолее ўсе нягоды і паўстане незалежнай, дэмакратычнай, квітнеючай краінай з вольным, годным, працавітым, заможным народам!

Жыве Беларусь!

Жывуць яе спрадвечныя сімвалы — герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг!

**А. Грыцкевіч**, доктар гістарычных навук, прафесар, **М. Крукоўскі**, доктар філасофскіх навук, прафесар, **Г. Штыхаў**, доктар гістарычных навук, прафесар, **У. Конан**, доктар філасофскіх навук, літаратар, **Я. Юхо**, доктар юрыдычных навук, прафесар, **Васіль Быкаў**, народны пісьменнік Беларусі, **Мікола Савіцкі**, прафесар, старшыня Мінскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны, **У. Кулажанка**, доктар эканамічных навук, прафесар, **А. Саламонаў**, доктар тэхнічных навук, прафесар, **Янка Брыль**, народны пісьменнік Беларусі, **Рыгор Барадулін**, народны паэт Беларусі, **М. Біч**, доктар гістарычных навук, **В. Шматаў**, доктар мастацтвазнаўства, **Ніл Гілевіч**, народны паэт Беларусі, **Л. Лыч**, доктар гістарычных навук, *прафесар,* **Р. Гарэцкі**, *акадэмік, доктар геалагічных навук, прафесар,* прэзідэнт ЗБС "Бацькаўшчына", **Р. Ганчарова**, доктар біялагічных навук, загадчык лабараторыі Інстытута генетыкі, **І. Нікітчанка**, член-карэспандэнт АН Беларусі, доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар, **М. Раманюк**, прафесар, заг. кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў БелАМ, **Л. Казлоў**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, галоўны рэдактар "Вялікага гістарычнага атласа Беларусі", **Я. Бокун**, доктар тэхнічных навук, прафесар, **С. Сідор**, доктар педагагічных навук, прафесар БДУ, **М. Ермаловіч**, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, **А. Вярцінскі**, пісьменік, заслужаны дзеяч культуры, лаў-рэат Дзяржаўнай прэміі, **Н. Аксёнчык**, кандыдат філалагічных навук, **А. Трусаў**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, **В. Асташынскі**, кандыдат фізіка-матэматычных навук, **В. Іпатава**, пісьменніца, ***А. Лозка****, кандыдат філалагічных навук,* **В.Мазец**, кандыдат гістарычных навук, **М.Якаўлеў**, кандыдат тэхнічных навук, **Г.Бураўкін**, паэт, **П.Садоўскі**, кандыдат філалагічных навук, **А. Цітоў**, дацэнт БДУ, **У. Мархель**, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі, **Л. Мірачыцкі**, кандыдат гістарычных навук, **В. Мароз**, кандыдат філалагічных навук, **А.Марачкін**, мастак, дацэнт БелАМ, **А. Астапенка**, кандыдат фізіка-матэматычных навук, **М. Купава**, сябра Саюза мастакоў Беларусі, **Ул. Арлоў**, пісьменнік, **С. Законнікаў**, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Я. Купалы, **Т. Сухая**, дацэнт кафедры вышэйшай матэматыкі БДПА, **В. Юфераў**, дацэнт кафедры вышэйшай матэматыкі БДУІР, **Э. Ялугін**, пісьменнік, **В. Каваленка**, доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, **М. Анцыповіч**, *дацэнт Беларускай політэхнічнай акадэміі,* **І.Багдановіч**, пісьменніца, кандыдат філалагічных навук, **В. Кошалеў**, кандыдат медыцынскіх навук, дацэнт Мінскага медыцынскага інстытута, **А.Літвіновіч**, кандыдат філалагічных навук, **С. Запрудскі**, супрацоўнік часопіса "Нёман", **Л. Калядзінскі**, дацэнт БДПА, ст. навуковы супрацоўнік Інстута гісторыі АН Беларусі, **М. Чарняўскі**, кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела Інстытута гісторыі АН Беларусі, **І. Ганецкая**, кандыдат гістарычных навук, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі, **А. Мядзведзеў**, кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі, **Э. Зайкоўскі**, кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі, **Л.Дучыц**, кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі, **М. Лашанкоў**, кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі, **В. Вяргей**, кандыдат гістарычных навук, **Г. Ганчарова**, малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі, **А. Мотуз**, старшы лабарант аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН Беларусі, **В. Шадыра**, загадчык аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН Беларусі, кандыдат гістарычных навук, **А. Станкевіч**, дырэктар фірмы "Новые технологии", кандыдат эканамічных навук, **Алесь Жук**, пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа.

ЛіМ
ЧАСАПІС



# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ










АЛЬФЯРОВІЧ Аляксандр Баніфацавіч. Паэт. Нарадзіўся ў 1919 годзе ў Слуцку. Скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут (1948).

Літаратурную працу пачаў у 1939 годзе.

Аўтар кніг "На краю тишины" (1922), "Поминальные свечи" (1994), друкаваўся ў калектыўных зборніках "Годы как реки", "Надежда", "Дзень паэзіі 1987", "Дзень паэзіі 1993", у перыядычным друку. Выступае таксама з рэцэнзіямі.

ЛАШУТКА Іван Іосіфавіч. Паэт. Нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Баяры Вілейскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1958). Намеснік дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце СШ N 3 г. Вілейкі.

Літаратурную працу пачаў у 1972 годзе.

Аўтар кнігі паэзіі "Свята на дваіх" (1992), публікацый у часопісах "Полымя", "Маладосць", штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", іншых выданнях.

МАЙСЕЕЎ Анатоль Фёдаравіч. Празаік, дзіцячы пісьменнік. Нарадзіўся ў 1942 годзе ў Мінску. Скончыў сярэднюю школу рабочай моладзі.

Аўтар аповесцяў "Здравствуй, мама!" (1988), "Приключения Васи Неумойкина в стране Чулании" (1991), "Семь дней в преисподней" (1992), публікацый у часопісах "Молодая гвардия" (Москва), "Полымя", калектыўных зборніках.

МІХНО Уладзімір Фёдаравіч. Празаік. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Чэрцы Лепельскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1986). Уласны карэспандэнт рэдакцыі газеты "Чырвоная змена".

Літаратурную працу пачаў у 1986 годзе.

Аўтар кнігі апавяданняў "Горкі зефір" (1993), аповесці "Азартныя гульні" (1991). Апавяданні змяшчаліся ў калектыўным зборніку "Карані" (1994), часопісах "Маладосць", "Дніпро" (Кіеў), іншых перыядычных выданнях.

ПЕЦЮКЕВІЧ Уладзімір Генрыхавіч. Паэт. Нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Цяцеркі Браслаўскага раёна. Скончыў Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі (1969). Загадчык аддзела музея народнай архітэктуры і побыту.

Літаратурную працу пачаў у 1975 годзе.

Вершы друкаваліся ў калектыўным зборніку "Лагодны промень раніцы" (1988), часопісах "Полымя", "Маладосць", "Крыніца", штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", іншых перыядычных выданнях.

ПРАЎДЗІН Віктар Аляксандравіч. Празаік. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў горадзе Ліда Гродзенскай вобласці. Скончыў Мінскую вышэйшую школу міліцыі Міністэрства ўнутраных спраў СССР (1981). Загадчык аддзела тэхнічнага забеспячэння рэдакцыі, часопіса "Нёман".

Літаратурную працу пачаў у 1987 годзе.

Аўтар кнігі "Візіцёр з Поўначы" (1992). Апавяданні друкаваліся ў калектыўным зборніку "Пад знакам Стральца", часопісах "Маладосць", "Беларусь", "Бярозка", штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", іншых перыядычных выданнях.

ЯВАР Святлана (Сачанка Святлана Барысаўна). Паэтэса. Нарадзілася ў 1968 годзе ў Мінску. Скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт (1990), аспірантуру пры Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа Акадэміі навук Беларусі (1993). Навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны.

Літаратурную працу пачала ў 1990 годзе.

Аўтар кніг паэзіі "Белы месяц" і "Раніца ў туманах" (абедзве 1994). Вершы друкаваліся ў часопісах "Полымя", "Маладосць", "Беларусь", "Першацвет", "Бярозка", "Полацак" (Кліўленд, ЗША), штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", іншых выданнях.

СОДАЛЬ Уладзімір Ільіч (Мормальскі Уладзімір). Публіцыст, крытык, літаратуразнаўца. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Мормаль Жлобінскага раёна. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут (1963). Загадчык аддзела творчага аб'яднання навукова-навучальных праграм Беларускага тэлебачання.

Літаратурную працу пачаў у 1955 годзе.

Аўтар кніг "Людзьмі звацца" (1977), "Пуцявінамі сейбіта" (1982), "Кушлянскі кут" (1990), "Сцежкамі Мацея Бурачка" (1990), "Жупранская старонка" (1991), "Тут бачу свой край" (1994), "Свіранскія крэскі" (1995), кнігі-альбома "Францішак Бенядзікт Багушэвіч" (1986). Укладальнік кніг Ф. Багушэвіча "Мая дудка" (1987), "Каму дудка паслушна..." (1990), "Творы" (1991). Рэгулярна выступае ў перыёдыцы з краязнаўчымі нарысамі і літаратурнадаследчыцкімі артыкуламі.

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА КРЫЖ ЕФРАСІННІ

**5 чэрвеня — дзень памяці святой Ефрасінні Полацкай, патронкі нашай Беларусі. Многія з нас часта звярталіся і будуць звяртацца да яе духоўнага подзвігу, пранікацца яго сутнасцю, каб і самому стаць трошкі лепшым, хаця б на кароткі час узвысіцца над паўсядзённым. Адной з самых грунтоўных крыніц па жыцці беларускай святой з'яўляецца кніжка пісьменніка У. Арлова "Ефрасіння Полацкая", напісаная з пашанаю і любоўю да духоўнай спадчыны вялікай асветніцы.**

**Многіх з жыхароў Беларусі і нашых суайчыннікаў за яе межамі хвалюе праблема, звязаная з крыжам святой Ефрасінні, сляды якога згубіліся ў гады вайны. Нагадаем некалькі радкоў з аповесці У. Арлова: "З канца дваццатых гадоў не забяспечаная дэмакратызацыяй грамадства палітыка адраджэння нацыянальнай культуры, вядомая пад назваю "беларусізацыя", пачала па камандзе з Масквы хутка згортвацца. Пасля публікацыі ў 1928 г. пагромнага артыкула сакратара ЦК КП(б) Беларусі Вільгельма Кнорына "Аб рашаючых "дробязях" у вялікім пытанні" распачынаецца падрыхтоўка да расправы з нацыянальнай інтэлігенцыяй... У той трывожны час былы прэм'ер БНР, дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея Вацлаў Ластоўскі выязджае з адмысловаю экспедыцыяй у Полацк. Мэта — пошукі неацэннага твора Лазара Богшы. Крыж Ефрасінні знайшоўся ў мясцовым фінаддзеле і быў перавезены ў Мінск".**

**Аднак, здаецца, паявілася мажлівасць трошкі дапоўніць гэтыя звесткі. Як часцей за ўсё бывае, выпадкова, у пратаколе пасяджэння калегіі Народнага камісарыята асветы ад 17 студзеня 1927 г. чытаем абвестку дня і бачым, што абмяркоўвалася пытанне "Аб перадачы Беларускаму дзяржаўнаму музею з Аршанскага музея былога Куцеінскага кляштара, з Полацкага Сафійскага Сабора карціны "Забойства Сцяпана" і з Полацкага акрвыканкама — крыжа Ефрасінні Полацкай". Пытанне пастаўлена трохі заблытана, але, мабыць, гэта віна хутчэй за ўсё сакратара. Тым не менш, сэнс зразумелы.**

**На пасяджэнні прысутнічалі нарком асветы Баліцкі, старшыня Галоўпалітасветы Шамардзіна, Валасевіч, Абрамчук, Гільдбрайхт, Мельнік, Мазур, Папова, Мац, Аболіна, Ведрынайціс, Рывес, Башкевіч, Таўбэ, Галкін. Відавочна, што Вацлава Ластоўскага на пасяджэнне не запрасілі.**

**Звестак аб абмеркаванні пытання ў пратаколе няма, а, можа, яно і не абмяркоўвалася, а адразу прынялі пастанову: "Калегія НКА лічыць неабходным узняць пытанне перад СНК Беларусі аб перадачы памянёных рэчаў Беларускаму дзяржаўнаму музею".**

**Такім чынам, трэба прызнаць, што месца знаходжання крыжа святой Ефрасінні было вядома, што праблема перадачы яго абмяркоўвалася на самым высокім узроўні і, мабыць, В. Ластоўскі перавёз крыж у Мінск у 1927 г., а не пазней.**

**Вось такое маленькае дапаўненне да фактаў, якія ўжо сталі хрэстаматыйнымі. Безумоўна, было б лепш, каб знайшліся архіўныя звесткі аб сённяшнім месцазнаходжанні крыжа, але будзем спадзявацца, што камусьці пашанцуе і наша святыня вернецца на Радзіму.**

**Марыя БЯСПАЛАЯ,**
**дацэнт Беларускага універсітэта культуры,**
**сябра Усебеларускага жаночага фонду святой Ефрасінні Полацкай**

## ФОТАЗДЫМКІ, ЯКІМ ВЕРЫШ

**У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі экспануецца выстава твораў фотакарэспандэнтаў "Газеты Выборчай". Газета паўстала ў 1989 годзе на хвалі сацыяльнага выбуху. Сёння гэта адно з самых уплывовых у Польшчы выданняў. "Газета Выборча" выходзіць штодня, акрамя таго, выдаецца шэраг спецыялізаваных дадаткаў па розных галінах дзейнасці — культура, бізнес і гэтак далей. Раз у тыдзень выходзіць часопіс "Газеты Выборчай" памерам прыблізна з маскоўскі "Огонек". Толькі варшаўскае бюро газеты налічвае сто трыццаць супрацоўнікаў (гэта без персаналу друкарні). Тэхнічны арсенал рэдакцыі выклікаў бы зайздрасць у беларускіх журналістаў і выдаўцоў...**

**"Газета Выборча" — гэта польскі погляд на падзеі ў свеце. Таму карэспандэнты газеты працуюць практычна ва ўсіх "гарачых кропках" планеты, у тым ліку і на тэрыторыі краін СНД. Здымкі, прадстаўленыя на выставе, не патрабуюць каментару. Ім немагчыма не паверыць. Гэта вышэйшы клас фотажурналістыкі.**

**Выстава арганізавана Польскім інстытутам у Мінску.**

**НАШ КАР.**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Паводле Эрнеста Хемінгуэя. З парадаў пачаткоўцам. І. Пачувайце сябе ўлюбёнымі. 2. Працуйце як шалёныя. 3. Не слухайце музыку, углядайцеся ў твары. 4. Вывучайце жыццё не па мемуарах. 5. Страчайцеся з аднадумцамі. 6. Добразычліўцаў слухайце напаўвуха. 7. Не марнуйце час, рабіце ўсё, нібы ў апошні раз. 8. Суадносьце прачытанае з перажытым. 9. Не спрабуйце зразумець, з чаго вы злітыя. 10. Не таўчыце слова ў ступе, гаварыце скупа.

●

Кафэ "У Янкі" ля музея Купалы. Як гэта вам, спадары, у галаву запала? А лічыце, не фамільярна, а лічыце, не дзіка, калі з'явілася б кавярня "У Івана Дамінікавіча"? Так, гэта бессаромна, так; гэта не высока, гаварыць "ты" святому, ляпаць па плячы прарока.

●

Так, мы родам з дзяцінства. Але і са старасці чалавечай. які ў нас год — мышыны, які ў нас шлях — Млечны. Чаго б гэта нас, асталопаў, пацягнула на гараскопы? Мабыць, па гэтай лініі мы ўжо здзяцінелі.

●

Тыдзень ідзе снег, як улічыць шкоду? Як і ўсё, што спісваецца на прыроду, па формуле "альфа — амега": колькасць вывезенага снегу не павінна перавышаць колькасць зрасходаванага паліва, снег ідзе з неба, а паліва з неба — ні каліва.

●

Калі ад нечых прамоў не стрываць, дык слухай напаўвуха ці навучыся пляваць. Улічы вопыт мінулага, чалавецтва не захлынулася, бо налаўчылася пляваць.

●

Не такія ўжо мы прасцякі, Маўродзі ў нас праходзіў. Дык не, заявіўся ў мястэчку мужык, даў аб'яву па радыё, выступіў у "раёнцы", усё як належыць быць, па завядзёнцы, абяцаў на кожную тысячу выйгрыш у паўтары — і расчыніў скарбонкі. А сам на сваім "Воўксвагене" знік невядома ў якой старонцы. Былі і раней прэцэдэнты, манілі на выбарах, рэферэндуме, але каб так, праз пятак, такі нацягнулі каўпак! Дык мо даўмеемся самі і нарэшце нешта сцямім?

●

Нарадзіўся — памёр... Працяжнік між дзвюх падзей — і не сказаць карацей. А жыццё гэтага віруса вартае было папіруса!

●

Можа, мы Богам праклятыя, бо шукаем паўсюль вінаватых. Тады ўжо за тых, за распятых, ніхто не вінаваты, няма ні ахвяр, ні катаў. А можа, і мы не вінаватыя, бо Богам праклятыя?

●

Гасцявала ўнучка ў Германіі, і цяпер змажы саўладай: па-нямецку крычыць "найн!", а пабеларуску "дай!".

●

Пра аўтара іншага слоўца не скажаш інакш, як "творца". Затое ў песні без зместу адно толькі "аўтар тэксту". Дык каб шчэ ў новай песні, а то і ў новай п'есы.

# УРАБЛЯЦЬ СВАЮ НІВУ!

ЯШЧЭ РАЗ ПРА ДЭНАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЮ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

Леанід ЛЫЧ

*Працяг. Пачатак N 20, 21*

## 3. МОЎНЫ АСПЕКТ КУЛЬТУРЫ

З мэтай хутчэйшага дасягнення адчувальнага поспеху трэба брацца не за дробныя, пабочныя ўчасткі культуры, а за самыя важныя і прэстыжныя асяродкі, якія толькі і могуць узняць аўтарытэт беларускай нацыянальнай прафесійнай культуры. Такімі асяродкамі ў першую чаргу з'яўляюцца сталічныя оперны і тэатр музычнай камедыі, філармонія, а таксама філармоніі абласных гарадоў. Набыццё такімі ўстановамі культуры беларускага нацыянальнага аблічча павінна разглядацца першачарговай задачай не толькі іх непасрэдных кіраўнікоў, але і тых, хто займае самыя высокія пасады ў гэтай галіне. Упэўнены ў рэальную магчымасць стварэння беларускай нацыянальнай оперы, аперэты, эстрады, бо ўмовы для гэтага ёсць. І нашым таленавітым паэтам трэба як мага хутчэй заняцца перакладам з арыгіналаў найбольш папулярных класічных твораў опернага і аперэтачнага мастацтваў і мо на пэўны час адмовіцца ад апісання прыгажосці роднага кута, радасцяў першага кахання...

Згадзіцеся, зараз у нас ёсць куды больш адказныя справы для вялікіх майстроў паэтычнага слова.

Калі ў оперным і тэатры музычнай камедыі, філармоніях загучыць на беларускай мове, прычым у высокамайстэрскім выкананні, заходнееўрапейская класіка, гэта будзе вельмі важны крок на карысць беларускасці ва ўсіх астатніх жанрах культуры, і яна выйдзе далёка за межы нашай краіны. Дзеля беларускасці ёсць сэнс на нашай мове ставіць і значную частку твораў рускіх кампазітараў. Ад такой практыкі паказу іх твораў адмовімся тады, калі адчуем усю моц нацыянальных асноў у класічнай музычнай культуры. Цяпер жа дзеля іх закладкі трэба смела ісці на любое парушэнне ўсталяваных за пасляваенны перыяд шкодных традыцый у гэтай сферы духоўнага жыцця, якія зрабілі яго — і прычым грунтоўна — безнацыянальным. Да гэтага многія ў нас, у т. л. і прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, як след прызвычаіліся і зусім не шукаюць аніякага выйсця, хаця ў параўнальна недалёкім мінулым пэўныя крокі ў гэтым напрамку рабіліся. Шмат прыкладаў не назаву, а вось факт перакладу Міхасём Калачынскім і Кастусём Пуроўскім оперы Д. Пучыні "Чыо-Чыо сан" на беларускую мову мне добра знаёмы. Ведаю і стаўленне да гэтай праблемы нашага вялікага песняра і патрыёта Якуба Коласа. Вось якая належыць яму слушная думка: "Опернаму тэатру даўно трэба перакласці не толькі афішы, але і свой рэпертуар. Няма чаго баяцца, што іх не зразумеюць. Няхай толькі спяваюць добра. Тое ж самае трэба сказаць і аб радыё. Песні, рамансы, увесь спеўны матэрыял трэба выконваць па-беларуску, зрабіўшы выключэнне для песень народных..."

Калі мы сустракаемся з дрэннай мовай і яшчэ горшым вымаўленнем у артыстаў, а таксама ў дыктараў радыё і кіно, дык гэта ў першую чаргу таму, што карыстаюцца яны беларускай мовай толькі на рэпетыцыях і на спектаклях, а творчы працэс ператвараецца ў службовы, нібы прымусовы. Каб слова загучэла ўсімі сваімі адценнямі ў вуснах актора ці дыктара, трэба любіць гэтае слова, не расставацца з ім, глыбока ўваходзіць у яго сутнасць".

Гаварыў жа гэтую святую праўду Якуб Колас на чэрвеньскім (1953) пленуме ЦК КПБ, на якім хацелі на ўсе 180° павярнуць (на вялікі жаль, не ўдалося!) наша нацыянальна-духоўнае жыццё, каб выратаваць беларускі народ ад рускай культурна-моўнай асіміляцыі, што ўжо паспела набраць даволі пагражальны характар. На гэтым жа пленуме і народная артыстка СССР Ларыса Александроўская, якую прырода не абдзяліла належнай нацыянальнай самасвядомасцю, выказала незадаволенасць, што з 42 спектакляў толькі 3-4 назвы з беларускага рэпертуару і ўнесла прапанову перакладаць оперы заходнееўрапейскіх кампазітараў на беларускую мову, як гэта ўжо было зроблена ў 1952 годзе з операй польскага кампазітара Станіслава Манюшкі "Страшны двор". А як дастасоўваюцца да нашых дзён тады ж сказаныя словы паэтам Петрусём Броўкам: "Не звяртаюць увагі на вымаўленне нават старэйшыя артысты такога вядомага тэатра беларускага, як Янкі Купалы".

І ўжо зусім недаравальна ў наш цяжкі час нацыянальна-культурнага Адраджэння працягваць па-ранейшаму ствараць на Беларусі рускамоўныя оперы і аперэты, песні і г. д., хаця, вядома, аўтару не загадаеш не рабіць такога. Пры наяўнасці на гэта даных ён мае права ў аснову сваёй музыкі пакласці твор на любой мове. Нам жа, як паветра, патрэбныя беларускамоўныя музычныя творы, пачынаючы ад песні і канчаючы операй. Не ведаю, як хто, а я калі слухаў оперу беларускага кампазітара Сяргея Картэса "Джардана Бруна" ў рускамоўным выкананні (а ў нас яно мае толькі такі варыянт), дык зусім не ўспрымаў гэты твор як штосьці нашае, нацыянальнае. Яе я аднөшу да духоўных здабыткаў таго народа, на мове якой яна пастаўлена, г. зн. да рускага, хоць сюжэт у ёй італьянскі. Калі кампазітар жыве, апантаны нацыянальнай ідэяй, ён любоўю сваю оперу незалежна ад яе сюжэта — рускага, італьянскага, французскага, нямецкага... будзе імкнуцца паставіць найперш на роднай мове таго народа, да якога належыць. На вялікую бяду, многія нашыя кампазітары і раней і цяпер, аплата працы якіх і сцэнічнае ўвасабленне твора фінансаваліся з беларускага дзяржаўнага бюджэту, ставілі свае оперы, аперэты на рускай мове, чым узбагачалі не беларускую, а рускую культуру. Словам, для развіцця апошняй нашай дзяржаве давялося ўбухаць столькі матэрыяльных і фінансавых сродкаў, што каб кампенсаваць іх, Расіі патрэбна было б мо цэлых дзесяць гадоў пастаўляць Беларусі бясплатна гэтак неабходныя ёй нафту, каменны вугаль, металы і г. д. Гэта проста велізарны парадокс для народа: мець культуру з такімі дэбалансаванымі нацыянальнымі асновамі і адначасова выступаць у сябе дома ў ролі донара рускай культуры. Калі не спыніцца гэты працэс, чаго добрага, наша таленавітая творчая моладзь дзеля набыцця сабе больш шырокай вядомасці пачне яшчэ працаваць на польскую, украінскую, нямецкую, англа-амерыканскую і іншыя больш распаўсюджаныя ў свеце, чым беларуская, культуры. Вось да якіх сумных вынікаў прыходзіць народ з хворай нацыянальнай самасвядомасцю і асабліва ўжо тады, калі такая немач перакінулася на мастацкую інтэлігенцыю.

Гатовы спрачацца з кожным, што з усіх катэгорый мастацкай інтэлігенцыі за кошт бюджэтных сродкаў рэспублікі "найбольшы ўклад" у дэфармацыю нацыянальных асноў духоўнага жыцця беларусаў, развіццё на іх зямлі рускай культуры ўнеслі работнікі беларускага кінематографа, у чым яму вельмі дапамаглі і дапамагаюць сёння артысты Расійскай Федэрацыі. Каб хоць трохі згладзіць сваю віну перад беларускай нацыянальнай культурай, нашай кінастудыі не хапіла б выпуску і сотні высокамастацкіх беларускамоўных фільмаў, да чаго яна, дарэчы, аніяк не імкнецца. Тут нам варта было б трохі павучыцца ў суседзяў-украінцаў, хаця і ў іх не ўсё ў парадку ў гэтай нерадавой справе. Але яны, у адрозненне ад нас, сёе-тое робяць, да прыкладу, арганізавалі дэманстрацыю аднаго з самых папулярных у свеце тэлесерыялаў "Санта-Барбара" на ўкраінскай мове. Няцяжка зразумець, колькі дзякуючы гэтаму ўдалося дадаткова далучыць да яе людзей.

Мова была і ёсць стрыжань культуры любой нацыі, і чым ён больш здаровы, тым больш развітой з'яўляецца яе культура. Мы ж, беларусы, раней былі вымушаныя, а цяпер па злой інерцыі імкнёмся развіваць культуру на рускай моўнай аснове, г. зн. ствараем сваю культуру без нацыянальнага асяродку, пакідаючы адмыслова беларускаму толькі знешнюю абалонку. Таму нічога дзіўнага, што калі суседнія нам краіны маюць выдатную самабытную культуру, прафесійная нацыянальная культура Беларусі з яе чужым асяродкам ледзь-ледзь забяспечвае сваё жабрацкае існаванне. Такога страшэннага заняпаду беларускай прафесійнай культуры ў яе вербальным выражэнні мы яшчэ не перажывалі за ўвесь перыяд пасля кастрычніка 1917 г. І калі пакінуць усё так, як ёсць сёння, мы можам ужо ў першыя дзесяцігоддзі трэцяга тысячагоддзя застацца без нацыянальнай культуры, знікнуць з твару зямлі як самабытны этнас. Выратаваць нас можа толькі прасякнутая клопатамі беларускага народа сур'ёзная дзяржаўная палітыка ў галіне нацыянальнай культуры. На адным энтузіязме, сіламі творчых саюзаў яе не выведзеш з нечуванай да гэтага асіміляцыі. У мяне раней былі вельмі вялікія спадзяванні на створаную ў 1992 г. Беларускую канфедэрацыю творчых саюзаў і культурных фондаў, прэзідэнтам якой з'яўляецца лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Мікалай Яроменка, але за гэты час яна нічога такога адмысловага не зрабіла для беларускай нацыянальнай культуры. Як і ў папярэдніх аб'яднаннях падобнага тыпу, у Канфедэрацыі на першым месцы інтэрнацыянальны зрэз у культуры Беларусі, што ў яе ўмовах раўназначна рускай культуры.

На сучасным этапе нацыянальна-культурнага Адраджэння свядомае невыкарыстанне (апошнім часам яно ўсё часцей і часцей назіраецца) ці няведанне прадстаўніком культуры дзяржаўнага сектару беларускай мовы належыць разглядаць як парадокс, як недапушчальную з'яву. А яна, як на ліха, пашыраецца. Даводзілася не раз чуць, як хтосьці з нерадавых палітыкаў ці дзеячаў культуры Беларусі быццам бы і з поўнай сур'ёзнасцю, заклапочанасцю публічна разважае аб сучасным стане яе духоўнага развіцця і перспектывах далейшага развіцця. Але што дзіўнага: ён жа пра гэтую святую для беларусаў справу гаворыць па-руску?! Толькі заняцце гэтым "абаронцам" беларускай культуры высокага месца ў нашым грамадстве не дазваляе запярэчыць яму народнай прымаўкай: "Злазь, чалавеча, з даху і не псуй гонту". Бо і сапраўды, як жа можна павучаць іншых паважаць беларускую культуру, калі сам не валодаеш беларускай мовай. Адразу ж узнікае пытанне, што мо гэтая асоба зусім не прызнае мову за асяродак нацыянальнай культуры і гатовая развіваць яе на любой мове.

Лічу мэтазгодным у самы кароткі тэрмін правесці атэстацыю найперш заслужаных і народных артыстаў Беларусі, заслужаных дзеячаў культуры Беларусі на веданне беларускай мовы, і таму, хто не валодае ці не жадае вывучыць, такія ганаровыя званні прывесці ў адпаведнасць з яго ўкладам у тую ці іншую культуру. Чаму, скажам, не мець у нас такіх ганаровых званняў: "Народны (заслужаны) артыст рускай культуры Беларусі", "Заслужаны дзеяч рускай культуры Беларусі"? Гэта ж вельмі адпавядала б характару творчай дзейнасці асобы — і што не менш важна — магчыма, і яго асабістаму жаданню і настрою. А то неяк нелагічна атрымліваецца, аб'яўляюць па радыё і тэлебачанні, што зараз перад вамі выступіць выдатны дзеяч беларускай культуры, які ўсё дарэшты жыццё аддаў яе росквіту, і раптам з рэпрадуктара ці экрана тэлевізара... палілася небеларуская гаворка. І тут зусім заканамерна пытанне: якой жа культуры служыў гэты дзеяч? Рэчы прынята называць сваімі імёнамі. Калі творчая асоба ўсё ці большасць гадоў свайго жыцця аддала ў нас развіццю рускай, польскай, яўрэйскай... культуры, дык і назавіце яе "Заслужаным дзеячам рускай, польскай, яўрэйскай... культуры Беларусі". Адама ж Міцкевіча ці Станіслава Манюшку мы не называем беларускімі пісьменнікам і кампазітарам, бо першы і другі працаваў у польскай культурна-моўнай традыцыі. Гэтыя дзеячы дарагія нам тым, што яны сваім высокім майстэрствам у галіне польскай культуры служылі праслаўленню нашага краю, вельмі прыхільна ставіліся да духоўных каштоўнасцей яго карэннага насельніцтва і, не выключана, што пры іншых абставінах і яны працавалі б на нацыянальнай культурнай аснове апошняга.

Трэба сказаць, што ў нас раней было і сёння ёсць нямала вельмі вядомых і аўтарытэтных у тым ці іншым відзе мастацтва людзей, якія і самі не лічаць, што яны працуюць на карысць беларускай нацыянальнай культуры, нясуць адказнасць за яе незайздросны стан ці павінны ратаваць апошнюю ад асіміляцыі. Яны жывуць і думаюць больш пра лёс рускай, чым беларускай культуры, хаця для развіцця першай на нашай зямлі створаны і існуюць куды лепшыя ўмовы, чым для другой. Што значыць руская культура для такога пласта творчай інтэлігенцыі Беларусі, вынікае з артыкула добра вядомага і за яе межамі народнага мастака СССР, правадзейнага члена Акадэміі мастацтваў СССР Міхаіла Савіцкага "Культура — это вера, знание и творчество" ("Политический собеседник", 1990. N 8). Здавалася б, калі аўтар нарадзіўся на беларускай зямлі і амаль усе гады пражыў тут, калі на ёй жа выдаецца ўпамянуты часопіс, у названым артыкуле гаворка павінна была б весціся пра нашую нацыянальную культуру. Не, не яе лёс хваляваў аўтара і рэдакцыю часопіса. Іх турбуе выключна толькі стан рускай культуры, у якой і так шмат заступнікаў у асобах вядомых дзеячаў Расіі, багатая спецыяльная перыёдыка, а не які там небудзь рэгіянальны палітычны часопіс. Прывяду на мове арыгінала колькі выказванняў М. Савіцкага аб лёсе рускай культуры, каб чытач пераканаўся, што і ў самую трывожную для нас часіну ёсць людзі, якія па абавязку сваёй прафесійнай дзейнасці павінны былі б дбаць пра нашы духоўныя асновы, а яны, наадварот, адыходзяць ад іх у зусім іншы бок: "...сегодня всякое слово о русской культуре, всякое слово о судьбе России... есть не столько слово надежды, сколько слово боли, скорби и сострадания. Ни одна культура в мире, ни один народ в будущем своем развитии не обещали так много — и нигде более надежды эти не были так безжалостно, бездарно, беспощадно растоптаны и обесчещены. Размах разрушения беспримерен — весь мир осветлился бы этим адским пламенем, соберись воедино все те пожары, в которых горела наша культура (г. зн. руская. — **Л. Л.**)... Поруганная, распятая, прошедшая через крестные муки, русская культура жива... Кризис нашей культуры (г. зн. рускай. — **Л. Л.**) не миновал...

Нравственная традиция — характернейшая черта русского народа, его главная сила... Как получилось, что целыя поколения оказались выбитыми из того нравственного потока, сбиты з того пути, оторваны от тех поисков, которые и составляли духовную жизнь нашего народа (г. зн. рускага. — **Л. Л.**)..."

Не адважыўся — і, відаць, меў на гэта рацыю — дырэктар нашага тэатра оперы і балета, кампазітар Сяргей Картэс у інтэрв'ю для газеты "Звязда" (27 студзеня 1996 г.) заявіць, што ён працуе на беларускую нацыянальную культуру. Прывяду найбольш характэрнае для маіх разважанняў аб культуры месца з гэтага інтэрв'ю: "Так, я лічу, што вельмі шчаслівы чалавек. Я лічу сабе вельмі багатым, таму што ў мяне дзве культуры: я ўмясціў і лацінаамерыканскую і еўрапейскую, славянскую культуру". Вось так, мець за плячыма дзесяткі гадоў творчага жыцця на Беларусі і прызнацца, што працуеш не на яе нацыянальную, а на нейкую зусім неакрэсленую "еўрапейскую, славянскую культуры"!? Не думаю, што так мог бы заявіць які-небудзь некарэнны дзеяч культуры Францыі, Нямеччыны, Італіі... пражыўшы там гэтулькі гадоў і да таго ж не будучы абдзелены іх урадамі прэстыжнай пасадай.

Невядома, па якіх прычынах — ці з-за вялікага жадання праславіцца ў свеце, ці з-за неразумення свайго месца ў нацыянальна-культурным жыцці беларускага народа, нізкага ўзроўню нацыянальнай самасвядомасці паэтаў і кампазітараў — у нас цяпер куды больш з'яўляецца новых эстрадных рускамоўных, чым беларускамоўных песень. Рознага роду песенныя конкурсы, хіт-парады, фестывалі, што апошнім часам праводзяцца на Беларусі, больш служаць прапагандзе здабыткаў рускай, чым беларускай нацыянальнай эстрады. А пры іншых жа падыходах на такія форумы маглі б прыязджаць да нас з беларускімі песнямі артысты не толькі з краін СНД, але Еўропы, Азіі і іншых кантынентаў. Забуксаваў, страціў сваю былую ролю беларускамоўны рок. Тут ужо нашы выканаўцы падаліся да англамоўнай песеннай спадчыны, што дае нуль выйгрышу беларускай нацыянальнай культуры.

Цяжка сёння зразумець пазіцыю беларускага радыё і тэлебачання. У іх перадачах мэтанакіравана аддаецца такая перавага рускай эстраднай песні над беларускай, што міжволі думаецца: кіраўнікоў гэтых відаў сродкаў масавай інфармацыі значна больш цікавіць палітыка, чым культура. Раней неяк было ўсё больш узважаным, а цяпер, відаць, каб толькі падтрымаць у беларусаў настальгію па СССР, адбіць усялякае імкненне да самабытнага нацыянальна-культурнага жыцця, ім даюць столькі савецкага і рускага з класікі, эстрады, народнага меласу, што нібыта нічога іншага і не створана ў свеце, не кажучы ўжо пра беларускае.

*(Заканчэнне будзе)*

Сярод кніг

# БЯДУЛЯ — ЗУСІМ НЕ ХРЭСТАМАТЫЙНЫ...

## ПРАЧЫТАННЕ КНІГІ І. НАВУМЕНКІ "ЗМІТРОК БЯДУЛЯ" Ў СУВЯЗІ СА 110-ГОДДЗЕМ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ АДНАГО З ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ XX СТАГОДДЗЯ

Сярод тых, хто стаяў ля вытокаў беларускай літаратуры XX стагоддзя, закладваючы яе падмурак, адно з першых месц належыць Змітраку Бядулю. Калі падаць гэты спіс першапраходцаў, дык ён будзе выглядаць падобным чынам: Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, Змітрок Бядуля, Цішка Гартны... Гэта тыя постаці, якімі не можа не ганарыцца нацыя і якія патрабуюць да сябе нязменнай пільнай увагі.

Здавалася б, яе, гэтай увагі, хапае і не адно пакаленне даследчыкаў прыглядаецца да жыцця і творчасці тых, хто, ступаючы па цаліку, не толькі сам тварыў таленавіта і мужна, але і праторваў шлях наступнікам. Больш таго, з цягам часу, са зменай палітычных рэалій, вяртаецца гістарычная справядлівасць. Спачатку па вартасцях быў заўважаны і ацэнены М. Багдановіч. Параўнальна нядаўна, у сувязі з дэмакратызацыяй грамадства мы нарэшце змаглі адкрыць для сябе ва ўсёй значнасці і паўнаце творчасць М. Гарэцкага. Працэс заканамерны, як заканамерна і тое, што пры гэтым могуць удакладняцца колішнія ацэнкі ў дачыненні да тых, хто пры жыцці лічыўся ледзь не жывым класікам. І здзіўляцца гэтаму не трэба. Трывожыцца неабходна толькі тады, калі талент яркі, непаўторны чамусьці як бы пачынае выпадаць з поля зроку. Думаецца, апошнім часам гэта тычыцца і Бядулі.

Здавалася б, адзін з першапраходцаў нацыянальнай літаратуры цалкам не забыты. Прынамсі, аб гэтым сведчаць даволі частыя перавыданні яго лепшых твораў, ды і нядаўняе, у 1985—1989 гадах выданне Збору твораў у пяці тамах само па сабе сімптаматычнае.

Гаворка аб іншым: аб увазе даследчыкаў да творчасці аднаго з самых выдатных нашых пісьменнікаў. У ранейшыя часы пра Змітрака Бядулю пісалі шмат. У 1960 годзе, як вядома, выйшла даследаванне А. Семяновіча "Змітрок Бядуля", годам пазней з'явілася аднайменная праца М. Смолкіна. У 1963 годзе жыццёвы і творчы шлях З. Бядулі асэнсаваў В. Каваленка ("Пошукі і здзяйсненні. Творчасць З. Бядулі"). Нарэшце, у 1981 годзе пабачыла свет кніга В. Ляшкевіча "Змітрок Бядуля — дзецям").

Але, пры ўсёй павазе да тых жа А. Семяновіча, М. Смолкіна і асабліва В. Каваленкі, нельга забываць, што іх даследаванні ўсё ж неслі на сабе пэўны адбітак свайго часу і з вышыні погляду сённяшняга дня не ва ўсім бездакорныя. Тым самым відочна, што наспявала патрэба новага прачытання творчасці З. Бядулі. Як мага больш аб'ектыўнага, з павагай да таленту і адначасова з патрабавальнасцю да яго. Што і зрабіў у кнізе "Змітрок Бядуля", выпушчанай выдавецтвам "Навука і тэхніка", І. Навуменка.

Гэта не першы зварот слыннага празаіка і даследчыка да творчасці пачынальнікаў беларускай літаратуры. Як не згадаць такія кнігі І. Навуменкі, як "Пісьменнікі-дэмакраты", Янка Купала. Духоўны воблік героя", "Якуб Колас. Духоўны воблік героя", "В. Дунін-Марцінкевіч" і іншыя. Усе яны атрымалі належны чытацкі рэзананс, а манаграфіі пра Я. Купалу і Я. Коласа былі адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР.

Ужо само па сабе гэта сведчыць на карысць таго, што даследчык менавіта такога аўтарытэту, навуковага ўзроўню і здатны разгледзець творчасць З. Бядулі ўсебакова і аб'ектыўна, а галоўнае па-новаму.

І гэтыя добрыя спадзяванні апраўдваюцца, калі пачынаеш знаёміцца з кнігай. Як быццам, у ёй вытрыманы ўсе "атрыбуты" падобнага выдання. Гаворка вядзецца ў храналагічнай паслядоўнасці, паэтапна згадваюцца асноўныя жыццёвыя і творчыя перыяды пісьменніка. Аднак разам з тым адразу адчуваеш, наколькі ўдаецца І. Навуменку глыбока ўвайсці ў свет З. Бядулі і свет, што акружаў яго з маленства, да самых драбніц адчуць паяднанне яго з навакольным асяроддзем, з маляўнічай беларускай прыродай.

Не ў апошнюю чаргу гэта адбываецца дзякуючы таму, што Іван Якаўлевіч, як правіла, перш чым узяцца за манаграфію пра каго-небудзь з творцаў, дэталёва знаёміцца з мясцінамі, у якіх пісьменнік нарадзіўся, жыў ці, магчыма, бываў наездам. Відаць, такая ўважлівасць да гэтага ідзе ад вопыту І. Навуменкі-празаіка. Дарэчы, і ў згаданай кнізе неаднойчы сустракаюцца мясціны, якія, упэўніваешся, наўрад ці мог бы напісаць "чысты" навуковец. Апошняму проста не хапіла б майстэрства пісаць раскавана, лёгка, і ў той жа час узважана. Ён не змог бы ва ўсёй паўнаце адчуць тое, што знаходзіцца як бы па-за межамі творчасці З. Бядулі, але жывіла яе, аказвала жыватворны ўплыў.

Змітрок Бядуля ва ўяўленні і разуменні І. Навуменкі ў многім непадобны на таго хрэстаматыйнага З. Бядулю, якога пераважная большасць з нас ведае са школьных гадоў. І гэты "новы" З. Бядуля паўстае ўжо нават тады, калі даследчык спрабуе высветліць паходжанне яго псеўданіма. Памятаеце, як наконт гэтага тлумачылі ў школе? Маўляў, Самуіл Плаўнік змалку сутыкнуўся з абяздоленым жыццём беларускага народа, якога вельмі любіў, таму і вырашыў падпісваць свае творы прозвішчам Бядуля — бедны, абяздолены.

І. Навуменка дае сваё тлумачэнне і з ім нельга не пагадзіцца: "Псеўданім фальклорнага паходжання. У беларускіх казках, якія пісьменнік збіраў, вывучаў усё жыццё, ёсць вобраз добрага спагадлівага дзядка Бядулі, які ходзіць па свеце, суцяшаючы малых, пакінутых бацькамі дзяцей, розных сірот, бяздомкаў. Псеўданім, як бачым, вельмі дапасоўваецца да чуллівага, спагадлівага сэрца беларускага пісьменніка".

Згадвае І. Навуменка і яшчэ пра адзін псеўданім С. Плаўніка, якім той доўгі час падпісваў свае вершы — Ясакар. Праўда, у гэтым выпадку даследчык прытрымліваецца куды меншай пэўнасці: "Цяжка растлумачыць гэты псеўданім. Ясакар — пірамідальная таполя, тонкая, стромкая, з прыціснутымі да ствала галінамі. Зрокавае ўражанне такое, што дрэва гэтае, нібы страла, ірвецца ў неба. Паэзія З. Бядулі таксама як бы імкнецца ў паднебныя высі. Можа, па той прычыне, што мала знаходзіць на зямлі ідэальнага, прыгожага, незвычайнага".

Ці не адразу І. Навуменка канкрэтызуе сваю гаворку: "Вывучаючы творчасць З. Бядулі, мы валодаем яўна недастатковым, калі можна сказаць, інструментарыем. Па-першае, не ўлічваем мадэрнісцкія накірункі тагачаснай літаратуры, актыўнае развіццё якіх супала з творчым станаўленнем беларускага пісьменніка, і, па-другое, выхаванне пісьменніка, яго чыста рэлігійную, біблейскую адукацыю. У выпадку з Бядулем адно на другое накладваецца. Бо ніхто не будзе пярэчыць, што ўражанні дзіцячых гадоў найбольш трывалыя і моцныя. Яны западаюць у душу назаўсёды. Маладыя гады Бядулі — гэта не толькі беларускія казкі, паданні, легенды, розныя страхотлівыя гісторыі, якія ён чуў ад вясковых людзей, але і біблейскія гісторыі з іх высокім стылем, незвычайнасцю, урачыстасцю вобразаў, адчувальным подыхам сівой мінуўшчыны".

А заглыбляючыся ў шматгранны свет З. Бядулі-мастака, даследчык найперш высвятляе адметнасць яго паэзіі. І прыходзіць, як на першы погляд, да нечаканай высновы: "Мы знаходзім у ягонай лірыцы не толькі цьмяныя водгаласы сімвалізму, а яшчэ ў большай ступені імпрэсіяністычныя вобразы і матывы. Бо значная колькасць бядулеўскіх вершаў выяўляе імкненне паэта ўлавіць, затрымаць, перадаць няўстойлівыя, вокамгненныя пераходы настрояў, жаданняў, летуценняў лірычнага суб'екта". Але ўсё робіцца аргументавана, доказна, на канкрэтных прыкладах, узятых з розных твораў, але найчасцей аўтар спасылаецца на кнігу паэзіі "Пад родным небам" (1922).

Яна, на думку І. Навуменкі, "уражвае цэласнасцю, адзінствам зместу і мастацкай формы. Як мастак Бядуля значна падняўся над першымі вершаванымі вопытамі. У яго зборніку мы не знойдзем ні грана літаратуршчыны, перайманьніцтва, неаследвання нейкім чужым узорам". І калі даследчык зазначае: "Самы яркі імпрэсіяніст у беларускай літаратуры ён, Змітрок Бядуля", гэта ўжо не ўспрымаеш як нешта нечаканае, бо сочачы за ходам разваг аўтара і сам паступова прыходзіш да падобнай высновы. Адно часам здзіўляешся, а чаму сам гэтага не змог у такім аспекце заўважыць раней, бо вершы З. Бядулі, асабліва тыя, на якія спасылаецца І. Навуменка, і самі "падштурхоўваюць" менавіта да такой, а не іншай высновы.

Аднак, якімі б значнымі не былі набыткі З. Бядулі ў галіне паэзіі (на жаль, гэтыя грані яго творчасці сучаснаму чытачу слаба вядомы, бо з вершамі З. Бядулі ён можа пазнаёміцца хіба па вышэйзгаданаму Збору твораў у пяці тамах. Несумненна, калі б складаўся ён сёння, змагло б увайсці тое, што не трапіла туды, калі быў абмежаваны аб'ём. Тым не менш у традыцыйным разуменні З. Бядуля найперш успрымаецца як празаік. Пачынаючы з хрэстаматыйных твораў "Пяць лыжак заціркі", "Малыя дрывасекі"...

Шмат гаворыць пра З. Бядулю-празаіка і Іван Навуменка. Але, што і чакалася, у цэнтры яго асаблівай увагі такія вядомыя бядулеўскія творы, як аповесць "Салавей" і раман "Язэп Крушынскі". З іншых падрабязна гаворыцца пра аповесці "Набліжэнне" і аўтабіяграфічную "У дрымучых лясах". Несумненна, быў абмежаваны строгімі рамкамі рукапісу, хоць, скажу шчыра, калі даследчык часам агаворваецца, што не будзе засяроджвацца на пэўным творы з-за яго нізкіх мастацкіх якасцяў, у мяне, чытача, гэта выклікае здзіўленне.

Ды гэта — прыватнасці. Галоўнае, што дзякуючы І. Навуменку, сучасны чытач зможа належным чынам разабрацца ва ўсіх вартасцях і недахопах таго ж рамана "Язэп Крушынскі" і хрэстаматыйнай аповесці "Салавей". Паколькі аўтар рэцэнзіі абмежаваны яе памерамі, наконт аповесці засведчу нязгоду І. Навуменкі з тым, што "крытык М. Смолкін у кнізе пра Змітрака Бядулю называе аповесць "Салавей" гістарычным творам, даследчык доказна пераконвае ў сваім пункце гледжання, не прымае ён і тэрміна "юнацкая аповесць", уведзенага ў беларускае літаратуразнаўства А. Адамовічам. У цэлым жа твор І. Навуменкам прачытваецца, аналізуецца ўсебакова. І хоць ён бачыць у аповесці шмат слабага ў мастацкіх адносінах, што асабліва кідаецца з вышыні сучасных крытэрыяў, тым не менш прыходзіць да высновы: "Салавей" — арганічны для З. Бядулі твор. Тут, бадай, найпаўней увасоблены характэрныя асаблівасці таленту пісьменніка. Сымон Салавей — з ліку вобразаў людзей незвычайных, неардынарных таямнічай здольнасцю аднаўляць галасы людзей, жывёл, птушак. Мастацтва — цуд, гаворыць нам пісьменнік. Яно як бы прыпадымае завесу над таямніцамі, загадкамі жыцця, свету, імкненнямі чалавека змагацца за лепшую долю".

Сваё разуменне ў І. Навуменкі і рамана "Язэп Крушынскі". А пачынаецца яно з уласнага бачання і разумення вобраза галоўнага героя. Зноў жа, даследчык адхіляе аргументы сваіх папярэднікаў: "Чамусьці крытыкі, літаратуразнаўцы называюць Язэпа Крушынскага кулаком, параўноўваюць з Лявонам Бушмаром К. Чорнага, Сторажавым з рамана А. Вірты "Адзінота", Астраўновым з "Узнятай цаліны" М. Шолахава". І тут жа ўдакладняе думку: "Язэп Крушынскі, аднак, кулак асаблівы. Калі і параўноўваць яго з якім-небудзь адметным літаратурным персанажам, то найбліжэйшым яго родзічам акажацца Астап Бэндэр з вядомых раманаў Ільфа і Пятрова "Золотой теленок" і "Двенадцать стульев".

На думку І. Навуменкі, "прататыпа Язэпа Крушынскага трэба шукаць... у махлярскім асяроддзі, дзе працаваў бацька Бядулі ды і значны час сам будучы пісьменнік". Гэта, аднак, не значыць, што даследчык абыходзіць іншых персанажаў рамана. У прыватнасці, ён спыняецца на вобразе селяніна Мірона Гарбочыка, празванага "Леў Талстой" і знаходзіць яму літаратурныя паралелі: "Тры пісьменнікі — Кузьма Чорны, Змітрок Бядуля і Міхась Зарэцкі — выявілі ў жыцці, па сутнасці, адзін і той жа тып старога чалавека, які цягнецца да новага жыцця. У Кузьмы Чорнага гэта стары Тамаш ("Зямля"), які ладзіць з моладдзю і марыць пра боты, якіх у яго ніколі не было, у З. Бядулі — "Леў Талстой" і, нарэшце, у М. Зарэцкага, у рамане "Вязьмо", — "Галілей".

Творчасць З. Бядулі, канечне ж, развівалася ў рэчышчы тагачаснай беларускай літаратуры. Адсюль і падабенства асобных герояў твораў, іх жыццёвае "сваяцтва", і блізкасць тэм, што ўздымаліся ў творах. Аднак сапраўдныя творцы не толькі адлюстроўваюць час, у якім жывуць. Яны могуць гэты час і абганяць, пішучы творы, якія адрасаваны не столькі сучаснікам, колькі наступнікам. А З. Бядуля, як і відаць з кнігі, акурат да такіх творцаў належыць. Ёсць у яго і твор, напісаны, так сказаць, з перспектывай — аповесць-казка "Сярэбраная табакерка", пра што і гаворыць у апошніх раздзелах І. Навуменка: "Думаецца, у аповесці ў завуаліраванай форме адлюстраваны сталінскі дэспатызм, жорсткія, бесчалавечныя рэпрэсіі 1937—1938 гг. З. Бядуля ўмее ў вобразах, здавалася б, далёкіх ад сучаснасці, паказаць сучаснасць. Гэта мы бачылі ў аповесці "Салавей", тое самае і ў "Сярэбранай табакерцы": за зайцам, пераможцам смерці, дарэчы, самым палахлівым з лясных звяроў, можна без асаблівага намагання ўбачыць забіты, затурканы народ..."

Відаць, па гэтай прычыне, хоць аповесць і была завершана ў 1940 годзе, пры жыцці пісьменніка яна так і не прыйшла да чытача, а былі апублікаваны толькі асобныя ўрыўкі: "Сёй-той мог сябе пазнаць. І не мінаваць бы пісьменніку ліха, хоць яшчэ ў трыццаць дзевятым годзе ён быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Сцяга, масавыя рэпрэсіі да часу напісання аповесці нібыта спыніліся".

Не магу толькі пагадзіцца з такім меркаваннем І. Навуменкі: "Аўтабіяграфічная аповесць "У дрымучых лясах" — апошні значны твор З. Бядулі". Яго "Апошні значны твор" — усё ж аповесць-казка "Сярэбраная табакерка". Іншая справа, што пакуль крытыкай яна, на жаль, па-належнаму не ацэнена. Але ж І. Навуменка і робіць гэта, ставячыся да твора з пункту гледжання сённяшняга дня.

Увогуле, нягледзячы на невялікі аб'ём кнігі (8 уліковa-выдавецкіх аркушаў), даследчыку ўдалося прааналізаваць усе найбольш значныя творы З. Бядулі. Не абыдзена ўвагай і яго творчасць як дзіцячага пісьменніка. А яшчэ гаворыцца пра З. Бядулю-рэцэнзента. І не без падстаў: "Па сутнасці, у першай палавіне 20-х гадоў З. Бядуля быў вядучым тэатральным крытыкам". Пісаў З. Бядуля артыкулы па гісторыі беларускага тэатра, у прыватнасці, і цяпер не страцілі сваёй значнасці яго нарысы па гісторыі "Батлейкі".

Дзякуючы кнізе І. Навуменкі "Змітрок Бядуля" чытачу адкрываецца не столькі З. Бядуля-хрэстаматыйны, колькі З. Бядуля, дагэтуль нам невядомы. Той З. Бядуля, які і займае годна сваё месца ў спісе пачынальнікаў беларускай літаратуры XX стагоддзя.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Угодкі

# ЯГО ЗАЎВАЖЫЎ БАГДАНОВІЧ

## ДА 125-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЛЯВОНА ЛОБІКА

Пацвярджэнне таму, наколькі таленавітая беларуская зямля, і творчасць так званых паэтаў з народа, актыўная дзейнасць якіх прыпадае на тыя часы, калі ў пачатку стагоддзя актывізаваўся нацыянальна-вызваленчы рух. Сярод іх — і Лявон Лобік, якога М. Багдановіч у свой час назваў "паэтам-земляробам". М. Гарэцкі, маючы на ўвазе паэтаў-самавукаў, зазначыў, што іх творы "натуральны адростак народнай паэзіі, казак і гутарак, легендаў і жартаў". З дня нараджэння Л. Лобіка сёлета спаўняецца 125 гадоў.

Нарадзіўся Лявон Сцяпанавіч у 1871 годзе (дакладная дата невядома) у вёсцы Кукавічы, цяпер у Капыльскім раёне. Паступіў у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, але па стане здароўя не змог вучыцца. Працаваў хатнім настаўнікам у роднай вёсцы, а таксама ў суседняй — Вялікай Раёўцы. Як устанавіў Г. Каханоўскі, малады настаўнік "рэвалюцыйныя падзеі 1905—1907 гг. сустрэў з акрыленай душой, уступіў у сацыял-дэмакратычную групу Капыля, стаў яе актывістам: атрымліваў прапагандысцкую літаратуру, праводзіў сходы, распаўсюджваў забаронены друк".

Паліцэйскім шпікам удалося высачыць рэвалюцыянера-падпольшчыка. Зведаўшы катаванні, ад поглядаў ён, аднак, не адмовіўся. Па-ранейшаму праводзіў сходкі сялян, займаўся антыўрадавай агітацыяй ў родных Кукавічах.

У 1987 годзе 90-гадовы пляменнік Л. Лобіка Рыгор Цімафеевіч Лобік у гутарцы з карэспандэнтам капыльскай раённай газеты "Слава працы" У. Гурыновічам успамінаў: "Не праходзіла тыдня, каб дзядзька не праводзіў патаемных сходак з заклікам паўставаць на барацьбу з царызмам. Вельмі часта... прыносіў з Капыля розныя пракламацыі... А я разам з Іванам Кляцко, Фёдарам Зянько і іншымі хлапчукамі наклейвалі іх варанаю бульбай на розных будынках Кукавіч, Лазавін, Мікалаеўшчыны, Пляшэвіч і іншых навакольных вёсак". Пад уздзеяннем падпольнай работы Лобіка сярод сялян пачаліся масавыя хваляванні.

Лявона Лобіка ўлады выслалі на тры гады ў Краснаярскі край, неўзабаве гэтую ссылку замянілі на другую — у правінцыяльны гарадок Чорны Яр на Волзе. Вярнуўшыся на Беларусь, жыў у Пінску, потым пераехаў у Кукавічы, дзе настаўнічаў, працаваў сакратаром у Нясвіжскага міравога суддзі. Адкрытай рэвалюцыйнай барацьбой не займаўся, але ад сваіх поглядаў не адмовіўся. Стаў адным з самых актыўных карэспандэнтаў газеты "Наша Ніва", збіраў грошы на яе выданне.

Творчасць гэтага народнага самародка амаль невядома сучаснаму чытачу. Толькі ў першым томе трохтомнай "Анталогіі беларускай паэзіі" ("Мастацкая літаратура", 1993) можна пазнаёміцца з яго вершаваным апавяданнем "Залом у жыце". Пісаў Л. Лобік у сваіх творах пра жыццё народа, змагаўся з забабонамі, верыў у шчаслівы дзень, калі Беларусь стане свабоднай.

Што датычыцца карэспандэнцый, дасланых у перыядычныя выданні, найперш у "Нашу Ніву", дык яны не надта розняцца ад допісаў тагачасных аўтараў. Праўда, адна з публікацый ("Наша Ніва", 1912, N 11) цікавая. Л. Лобік належаў да тых, хто ўжо тады верыў: у нетрах Беларусі багата карысных выкапняў. "Шмат чаго крые наша зямля ў сваім нутры, і што ў ёй ёсць, ніхто не ведае, — пісаў Лявон Сцяпанавіч. — Вось каб у нашым павеце вучоныя прагледзелі зямлю, то ў ёй пэўна што знайшлі б шмат чаго цікавага і карыснага для людзей. Я хачу сказаць аб тым, што месцамі грунт дае ўраджай без гною да 25 гадоў, а гэта знак таго, што тут у зямлі ёсць нейкія мінералы. Напрыклад, апавядае жыхар вёскі Куцоўшчыны Іван Ліхадзееўскі, што недалёка ад іх вёскі ва ўрочышчы "Вузкія" некалі капалі зямлю пад слупкі і знайшлі слой солі, толькі чырвонага колеру, соль жа былі адкапалі і каля вёскі Цапры Грыцэвіцкай воласці... Калі б хто пацікавіўся праверыць маё пісанне, той хай пытаецца Івана Ліхадзееўскага, каторы жыве ў вёсцы Куцоўшчыне Цімкаўскай воласці, ён можа паказаць усе гэтыя месцы, пра каторыя я пішу".

Пасля кастрычніцкіх падзей Л. Лобік выступаў у часцях 2-й арміі Заходняга фронту, агітаваў салдат і афіцэраў пераходзіць на бок народа. Аднак знаходжанне ў ссылцы не прайшло бясследна. Л. Лобік захварэў на сухоты. Ачуняць так і не ўдалося. Апошнія свае дні правёў у капыльскай бальніцы. Памёр у канцы сакавіка 1918 года і пахаваны на мясцовых могілках.

**А. АН-ЕВІЧ**

ЛіМ
ЧАСАПІС

## ВЫБРАНЫЯ СТАРОНКІ ПРОЗЫ

**Хрэстаматыя "Беларуская літаратура. Проза 20-х гадоў", што пабачыла свет у выдавецтве "Універсітэцкае", складзена паводле новай праграмы курса "Гісторыя беларускай літаратуры для студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ", і таму, безумоўна, у першую чаргу адрасавана будучым настаўнікам, журналістам. Але яна выкліча цікавасць і ў так званага масавага чытача. І дзякуючы таму, што на старонках яе прадстаўлены не толькі імёны і аўтары добра вядомыя, а і тыя, якія па розных прычынах былі забыты. Прынамсі, можна адкрыць вабны свет прозы Людмілы Чарняўскай, жонкі класіка нацыянальнай літаратуры Максіма Гарэцкага, якая, як вядома, была яшчэ і празаікам, найбольш пісала для дзяцей. Не сказаць, каб шмат гаварыла сучаснаму чытачу імя Сымона Хурсіка, а ён з першым апавяданнем выступіў яшчэ ў 1924 годзе, выдаў зборнікі "Першы паўстанак", "Шляхам навальніц", надрукаваў у часопісе "Маладняк" аповесць "Чорны мост". Аднак у 1931 годзе С. Хурсік быў арыштаваны. На шчасце, выжыў, ды, на жаль, на Беларусь так і не вярнуўся, памёр у Карагандзе ў 1972 годзе...**

## "БМ": БОЛЬШЫ І АБ'ЁМ, І ТЫРАЖ

**У сённяшні не лепшы час проста здзівіў другі за сёлетні год нумар "Беларускай мінуўшчыны" — ён большы і аб'ёмам і накладам у параўнанні з папярэднім. Ды радуе ён найперш зместам. Чытач, неабыякавы да нацыянальнай даўніны, знойдзе ў нумары нямала цікавага. А той чытач, хто дагэтуль не надта задумваўся, адкуль наш нацыянальны радавод, хто мы на гэтай зямлі, знойдзе тут адказы на многія свае пытанні.**

**Узяць хоць бы нарыс "Вялікі галоўны гасцінец" С. Асіноўскага ў традыцыйнай рубрыцы "Край!" — "З маленства памятаю дарогу (па-сучаснаму гравійку), што вяла з Оршы ў Коханава. Па ёй, пыльнай улетку, гразкай вясною і восенню, замеценай снегам зімою, не раз даводзілася ў перапоўненым курганскім аўтобусіку... ездзіць з бацькамі да бабулі, што жыла ў невялікай вёсачцы паблізу шляху, як звалі дарогу ў наваколлі. Мясцовыя жыхары расказвалі, што пабудавала дарогу ў старадаўнія часы царыца Кацярына, і з тае пары завецца яна Кацярынінскім трактам". С. Асіноўскі і спрабуе даць адказ на пытанне, якой была дарога стагоддзі два таму назад, у часы імператрыцы Кацярыны II.**

**Пад гэтай жа рубрыкай — раздзелы з будучай кнігі Я. Пархуты (цяпер, на жаль, нябожчыка) "Крывічы" і невялікае слова пра самога аўтара — "Майстар класічнага краязнаўства".**

**Адкрывае ж нумар артыкул кіраўніка арганізацыйна-метадычнага цэнтра па выданні Хронік Памяці А. Петрашкевіча "Эмацыянальная энцыклапедыя" — гаворка пра тое, як рыхтуецца гэты унікальнейшы кнігазбор у гісторыі нашай дзяржавы, у якім будуць асобнымі тамамі прадстаўлены ўсе раёны.**

**В. Чаропка ("Другое безгаспадарства") працягвае знаёміць з асобнымі перыядамі з гісторыі Рэчы Паспалітай. Я. Анішчанка ("Падазраюцца ўсе!") вяртае да часоў панавання Паўла І. Яшчэ адна старонка мінуўшчыны паўстае ў матэрыяле П. Брыгадзіна і І. Грыбко "Аляксандр II: "Тэрмінова прыступіць да паляпшэння грамадскага кіравання..."**

**Прапануюцца чарговыя старонкі публікацыі "Свет і Беларусь: параўнальная храналогія" Л. Лойкі і А. Махоўскага. "Гісторыя Беларусі: год за годам" У. Арлова і Г. Сагановіча таксама папоўнілася новымі раздзеламі: "1831. Нацыянальна-вызваленчае паўстанне супраць царызму", "1835. Адкрыццё Полацкага кадэцкага корпуса", "21 студзеня (2 лютага) 1838. Нарадзіўся Кастусь Каліноўскі", "1839. Акт аб ліквідацыі Уніі". У. Аніскові гутарыць з намеснікам старшыні Камітэта Рэспублікі Беларусь па архівах і справаводстве У. Адамушкам — "Пытанне ў тым — прадоўжыцца ці не гісторыя Беларусі?" Не менш цікавая гаворка У. Ігнатовіча з загадчыкам аддзела старажытнабеларускага мастацтва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі В. Шматавым "Беларусь — унікальная краіна".**

**Герой нарыса А. Карлюкевіча "Магілёўскі Дон Жуан" — оперны спявак С. Мігай, які нарадзіўся ў Магілёве. У нарысе ж А. Марціновіча "Пакутная душа" расказваецца пра мастака Б. Залескага, лепшага сябра Т. Шаўчэнкі.**

**А ў нумары — яшчэ і "...Земля и грады, к Российской империи прилеглые" С. Куль-Сяльвестравай, "Секвестр" У. Сосны, "Пад сценамі Масквы" В. Літвіна, "Кашары, Грушаўка, Пяржэсцы..." А. Лакоткі, "Вяртанне "Літоўскай метрыкі": міф ці рэальнасць?" М. Шумейкі, "Беларуская дакументальная спадчына ў Польшчы" У. Стэпняка, "Ці ўмелі мы працаваць..." Х. Бейлькіна, "Сляды першай сусветнай" І. Пракаповіча і іншыя матэрыялы...**

Віншуем!

# ЦЯПЛО ДУХОЎНАСЦІ І ДУШЭЎНАСЦІ

## Генрыху ДАЛІДОВІЧУ — 50

Не стае вольнага часу, катастрафічна не хапае яго. Ды хіба толькі аднаму мне? Чым большы цяжар пражытых гадоў за плячыма, тым часцей кожны адчувае, як хутка мінаюць дні, месяцы, гады. Дзе ўжо тут вяртацца да некалі чытаных кніг, што даўно сталі тваімі любімымі?! Хоць бы паспець пазнаёміцца з новымі. І ўсё ж бываюць моманты, калі хочацца ўзяць у рукі адну-другую з тых, што ў свой час па-сапраўднаму ўзрадавалі. Маю на ўвазе не толькі класіку. Вяртаюць да сябе і кнігі, падораныя іх аўтарамі. Сярод іх у мяне шмат падпісаных Генрыхам Далідовічам — зборнікі апавяданняў і аповесцяў, раманы.

Найчасцей бяру ў рукі кнігу "На новы парог", у якой ёсць аднайменная аповесць. Вазьму дый адгарну знаёмую старонку. Зноў учытваюся ў радкі, пасля якіх адчуваеш сябе быццам пасля цёплага летняга дажджу, што хуценька абрасіў зямлю. Неяк хораша і прасветлена становіцца на сэрцы. Бо гэта ўсё тваё, роднае і блізкае. Яшчэ гэта сказана надзіва таленавіта і ўзрушліва.

"Бабчын Скон абдымала ноч. Уцямнелая без месяца і зорак, ціхая ды сцюдзёная. Як і сто, як і больш гадоў назад у такую — маладую летнюю — часіну.

Але вось за ўсходнім небакраем нібы зацяпліўся нейкі нябесны агонь пад чорнаю посцілкаю — там пачала непакоіцца ледзь прыкметная яснасць. Сабралася, устоялася і нечакана пырснула ўверх светлым сяйвом. Неяк раптоўна заявілася неба, нізкія, ледзь не над самаю зямлёю, расяныя. Яны нібы са страхам уцякалі, плылі ў цемень, на поўнач. У наваколлі днела і днела, набывала ночы нястрымная дзённая сіла...

...Узвіўся з зямлі ў паяснелае неба жаваранак, азваўся, захліпнуўся, пасля абудзіў нерухомае, яшчэ не зусім разднелае наваколле бадзёраю песняю. Здаецца, адразу ж заявіўся ці то ветрык, ці то цяг — варухнулася на бярозах лісце, упалі долу кропелькі расы. І з гэтым падзеннем, а пасля і з першым гукам ды з павесялелым, хутчэйшым цёкам вады ў рэчцы, з першым рэхам у лесе ўсё ажыло. Прыйшло ў рух, можа, яшчэ і не кожнаму бачны. Жыццё, што нібы запынілася на ноч, пайшло-пабегла сваёю каляінаю, па сваім, аднаму яму вядомым крузе.

Неба, лес, рэчка, птушкі і звяры — а без іх Бабчын Скон быў бы не сапраўдны, як і любая іншая вёска на зямлі, — усе яны мігам адчулі гэты зрух, пачалі прачынацца..."

Адзін Г. Далідовіч добра ведае, якія назіранні падказалі яму гэты яркі і такі вабны малюнак — магчыма, усплыў ён з часу яшчэ зусім кволага маленства, што ў кароткіх штоніках прайшло-прабегла на хутары Амшарок; можа, нагадалі аб сабе ўражанні, пачэрпнутыя пазней у вёсцы Янкавічы, дзе паступова адбывалася сталенне; а мо гэта вынік частага судакранання з прыродай усёй Стаўбцоўшчыны, такой дарагой, блізкай сэрцу? Аднак як бы там ні было, а чытаючы падобныя мясціны (а іх у аповесці "На новы парог" вельмі шмат, бо яна ў пэўнай ступені і песня матчынай зямлі, беларускай вёсцы, хоць і гучаць у творы надта трывожныя ноткі, бо ён не проста пра вёску, а пра так званую неперспектыўную вёску), не можаш не ўпэўніцца: усё гэта ў творы невыпадковае. Не ў тым сэнсе, канечне, што яно працуе на раскрыццё аўтарскай задумы. Ёсць яшчэ і тое глыбінна-адчувальнае, без чаго пісьменнік не пісьменнік. Гэта любоў да роднай Беларусі, да зямлі, якая ўзгадавала цябе, а вытокамі любоў гэтая пачынаецца з закаханасці ў родныя мясціны.

...Здымаю з паліцы кнігу за кнігай. І быццам нанава перажываю тыя хвіліны, што некалі далучалі мяне да творчасці Г. Далідовіча. А знаёмства з ёй пачалося з апавядання "Ліст да Олі", апублікаванага некалі ў часопісе "Маладосць". Гэты адзін з першых твораў маладога на той час аўтара. Перад гэтым, здаецца, была толькі публікацыя ў стаўбцоўскай раённай



газеце "Прамень", як вядома, з цягам часу пачатковыя пробы пяра страчваюць для чытача ўражанне нейкай нерушавасці, першароднасці. З апавяданнем "Ліст да Олі" гэтага не здарылася. Бо непрыдуманае яно, бо ўсё, пра што расказаў Г. Далідовіч, з жыцця.

Няма гэтай "прыдуманасці" і ў трыпціху "Цяпло на першацвет". Кожнае з апавяданняў, што ўвайшлі ў яго — "Каўнер з заморскага звера", "Крычаты", "Касцюм", — жыццё пасляваеннай вёскі, убачанае вачыма хлопчыка Стасіка. Перад намі душа, якая чуйна рэагуе на ўсё, што адбываецца наўкола. Асабліва на няпраўду, няшчырасць, абыякавасць і хцівасць. Стасік — быццам тое кволенькае дрэўца. Цягнецца да сонца, да святла. А яго ж часам не хапае, святла гэтага. І Стасік — само ўвасабленне

Генрых ДАЛІДОВІЧ

# ДЗЕ НАШ МАЙСЕЙ?

### ЛІСТКІ ЗАПІСНЫХ КНІЖАК

Цяжка разабрацца, чаму некаторыя гэтак захоплена любяць паляванне. Супакойваюцца ад мітусні і турбот, цешацца, калі можна не толькі засяродзіцца ў лесе, палюбавацца красой, пасядзець з сябрамі каля цяпельца, але і... забіць!

●

Здаецца, тыя, у каго шчырая, уражлівая, спагадная да людскога гора душа, жывуць мала. А вось тыя, хто сам зглуміў у сабе яе, душу, а ў выніку пачаў жыць з жорсткасцю да іншых, хлусіць і няшчадна таптаць бліжняга, жылі і жывуць ледзь не да ста гадоў.

●

Яна, сужыхарка па адным доме, старэйшая на гадоў дзесяць, дагледжаная і гладкая, але адлучаная сваім строгім, невясёлага колеру касцюмам і цяжкім, як кажуць, двайным позіркам, працавала ў "апараце" машыністкай. Спакваля, бачачы адно аднаго, мы пачалі вітацца.

Аднойчы каля майго пад'езда яна, угледзеўшы, што я сяджу на лаўцы і чытаю "Звязду", ухмыльнулася: "По-белорусски читаете?" Мяне пацягнула за язык ляпнуць пра тое, што беларуская мова — мая родная мова, а па-другое, без яе не можа быць сапраўднай Беларусі — адпаведна, і мы як народ несапраўдныя, бо...

"Прекратите! — апаліла яна мяне халоднымі вачыма. — Мы, белорусы, первые должны показать пример слияния своего языка с русским! Иначе даже нас, "щирых", сам Пётр Миронович не защитит!"

Гадоў пятнаццаць жыву ў іншым месцы. Выпадкова сустрэліся нядаўна з ёю, пенсіянеркай ужо. Ведае ўжо, хто я, але ўсё роўна радасна, пераможна ажно зазіхацела: "Ну, кто прав?! Не продолжается слияние?!"

●

Яшчэ Чэхаў пільна заўважыў: "З вёскі лепшыя людзі сыходзяць у горад, і таму яна падае і будзе падаць".

Сапраўды, яна, наша беларуская мілая душы, але заўсёды гаротная вёска, дала і дае гораду шмат рабочай і інтэлектуальнай сілы. Але пры гэтым працягвае адбывацца дзіўны парадокс: вяскоўцы літаральна запаланілі нашы гарады (кажуць, нас, гэткіх, у адным Мінску болей мільёна), але не абеларусілі іх. Больш — за рэдкім выключэннем (асобныя дзеячы навукі і культуры, настаўнікі) сялянскія дзеці не толькі лёгка пакідаюць сваю "малую радзіму", але і ўсё роднае, прадаўжаючы ствараць пэўны феномен двухмоўя. У нашых гарадах цяпер дзве мовы: руская і абрушаная "трасянка". Мала гэтага — тыя, каго заўважылі ў гурце і павабілі да сябе, наверх, не толькі цураюцца беларускасці, але люта вытрасаюць яе і з іншых. Чым вышэйшае іхняе ўзыходжанне, тым болей заўзяты і неміласэрны іхні запал, што перарастае ў тупасць і дурноту.

У Прыбалтыцы, Закаўказзі, у Сярэдняй Азіі, а цяпер, як бачым, і на Украіне такой ганебнай і самазнішчальнай з'явы няма. У нас жа яна задаўненая хвароба, лепшыя сыны нашай нацыі ясна і занепакоена вызначылі дыягназ, але лекары не ратуюць, а заганяюць яе, хваробу, углыб. Хворага, зразумела, шкода, але ці ў стане ён споўніць як след тое, што па сіле толькі здароваму?

●

Расійскі самадзержца Мікалай 1: "Калі сумленны чалавек сумленна заводзіць справу з прахвостам, то яго, сумленнага, заўсёды абдураць".

●

"Народ яго любіў..." — бывае, чытаем пра кагосьці з вялікіх пісьменнікаў.

У Буніна, у яго кнізе "Освобождение Толстого", я вычытаў крыху калі не іншае, дык жыццёва праўдзівае. Памёр Л.Талстой, які ўжо і пры жыцці быў аб'яўлены Богам у літаратуры, гонарам сусветнай культуры, яго пахавалі, сабраліся землякі-сяляне, г.зн. народ: "Ну вот, мы несли... Что ж, будет нам за это какое-нибудь награждение от начальства или от графини? Ведь мы так старались! Целый день на ногах!"

Народ — розны. Нават і да тых, хто не дзень, а ўсе свае 82 гады "на ногах". Ды яшчэ як! У нас вось сказалі па-пустадомску альбо, наадварот, вужліва: у новы Вярхоўны Савет не трэба выбіраць і пісьменнікаў, якія былі, ёсць і будуць на патрэбных заўсёды "ногах". І не абралі. Мабыць, у вышэйшым заканадаўчым органе лішнія высокаадукаваныя і высокакультурныя, свядомыя асобы.

●

Яшчэ пра Л.Талстога, але цяпер па кнізе жончынай сястры, Т.Кузьміцкай "Моя жизнь дома и в Ясной Поляне".

Леў Мікалаевіч быў багаты чалавек, ужо ў маладыя гады меў не меней тысячы гектараў зямлі, вельмі любіў гаспадарыць: завёў вялікую пчалярню, пасадзіў вялікія

чысціні, душэўнай шчодрасці, чалавечнасці.

Памятаецца і тое, як уразіў некалі Г. Далідовіч аповесцю "Усё яшчэ наперадзе". Гэта ўжо з часоў яго настаўнічання ў Барысаўскім раёне. Напісаны ад імя галоўнага героя Паўла Васільца, твор стаў сапраўднай споведдзю маладога сучасніка. У Васільцу, канечне ж, угадваўся аўтар — гэткі ж сумленны, прынцыповы, улюбёны ў сваю прафесію чалавек, а да ўсяго бескампрамісны і на той час у нечым рамантык. Можна было "пазнаць" пісьменніка і ў яго наступных аповесцях з "настаўніцкага цыкла" — "Міланькі" і "Завуч". Праўда, сама творчая манера Г. Далідовіча са схільнасцю прытрымлівацца дакументальнай асновы не магла не паўплываць на раскрыццё характараў, часам фактычны матэрыял на "ўціскаўся" ў сюжэтную канву, а гэта вяло да інфармацыйнай перанасычанасці твораў, якая месцамі перашкаджала псіхалагічнай заглыбленасці ў паводзінах персанажаў.

Ды, зрэшты, чытач найчасцей падобных "пралікаў" не заўважае. Ён рэагуе на напісанае па-свойму. Шырокі рэзананс мелі і згаданыя аповесці Г. Далідовіча. Асобныя з "герояў", нават пазнаўшы сябе, імкнуліся і праўды дабівацца. Маўляў, пакрыўдзіў іх пісьменнік. А ці гэта не найлепшае сведчанне таго, наколькі ўдалося Г. Далідовічу заглыбіцца ў само жыццё, адчуць яго праблемы, а значыць і ўлавіць тыповае, а яно, гэтае тыповае, не кожнаму падабаецца.

Усё, што з'явілася з-пад пяра Г. Далідовіча, пры адным пераліку шмат месца зойме. Таму толькі пра самае галоўнае. А гэтае галоўнае, канечне ж, трылогія "Гаспадар-камень"(першы раман з якой, што і даў ёй назву, у 1988 годзе быў адзначаны Літаратурнай прэміяй імя Івана Мележа). Трылогія пра тое, як беларусы беларусамі станавіліся. Як прачыналіся яны ад векавога сну, як задумваліся над сваім месцам у жыцці. Як вучыліся быць сапраўднымі гаспадарамі.

Адзін жа з апошніх раманаў Г. Далідовіча "Заходнікі" — праўда пра жыццё Заходняй Беларусі, але тая праўда, якая дзесяцігоддзямі замоўчвалася. Найчасцей пісьменнікі звярталіся да асэнсавання падзей толькі даваеннага перыяду, а тут — пасляваеннае жыццё заходнебеларускай вёскі. Рушыцца трывалы ўклад жыцця, заходнікаў сілком заганяюць у калгасы. Паўтараецца тое, што ў іншых рэгіёнах назіралася ў гады калектывізацыі. Ды, калі лепей разабрацца (а гэта Г. Далідовіч паказвае аргументавана і пераканаўча), тады многае ў нечым успрымалася прасцей. Усё ж знаходзілася нямала людзей, якія верылі ў магчымасць зажыць пры калгасах шчасліва, а тут і дагэтуль — ці не суцэльная заможнасць. Тут — сапраўднае адчуванне людзей сябе гаспадарамі і раптам — руйнаванне ўсяго. Абяцанне перспектыў, якія можа належным чынам успрыняць толькі той, каму няма чаго страчваць. А як быць сям'і Грыгарцэвічаў?! У якіх было усё, і раптам — далучэнне да агульнай нішчымніцы?

У новым рамане Г. Далідовіча "Кліч роднага звона" — сівая беларуская даўніна. Вяртанне да часоў Вялікага княства для пісьменніка — гэта і магчымасць у пэўнай ступені задумацца над нашымі сённяшнімі праблемамі. Зразумела, як і ў кожным мастацкім творы, пра гэта прама не гаворыцца. Але ж не будзем забываць, што чым больш таленавіты твор, тым у ім больш глыбокі падтэкст. І чытач, неабыякавы да нацыянальнай мінуўшчыны, не можа яго не заўважыць, не адчуць. Шмат якія добрыя думкі абудзіць у яго знаёмства з творам, які пакуль яшчэ не выдадзены асобнай кнігай, бо аўтарам ён і не завершаны.

Чакае кнігі і цыкл "Жар кахання". Гэта як бы працяг ранейшай кнігі — "Маладыя гады", што выйшла яшчэ ў 1979 годзе. Тады Г. Далідовіч таксама тактоўна расказаў пра "жар кахання". Але што-кольвечы даводзілася і апускаць, асабліва што тычылася інтымных узаемаадносін персанажаў. Цяпер жа, як вядома, і тут цэнзуры няма. Таму і можа Г. Далідовіч пісаць больш смела, не апускаючыся, аднак, да ўзроўню "смакавання" інтымных падрабязнасцяў...

Не стае вольнага часу, катастрафічна не хапае яго... І ўсё ж я дазваляю сабе часам знайсці хвіліну, каб на кароткі час далучыцца да кніг Г. Далідовіча. Яго проза — акурат тое, што нагадвае аб трываласці духоўнасці, маралі. Пры той, канечне, умове, калі і сам чалавек гэтай духоўнасці жадае, калі яму хочацца жыць па высокіх законах маралі, а значыць і па законах агульначалавечых. А ў гэтым шмат дапамагаюць па-сапраўднаму высокамастацкія творы. Творы Генрыха Далідовіча — не ў апошнюю чаргу.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**



*Хутар Амшарок. Злева направа (уверсе): дзядзька Антось, бацька Вацлаў з сынам Янкам, сусед Мікалай Емельяновіч, пасярод — Генрыхава сястра Аня, цётка Марыля з дачкою, маці Яніна. Сядзяць Генрых (злева) і яго брат Рышард. 1956 г.*

Казімір КАМЕЙША

# САНІ

*Генрыху ДАЛІДОВІЧУ*

**Згадаем даўняе часамі:**
**У пушчы нашае вясны**
**З табою нас лучылі сані,**
**На пушчу цэлую адны.**

**Грыміць марозных раніц кашаль,**
**Страляе дымам трактарок,**
**Што цягне сані з вёскі нашай**
**Да налібоцкіх хутароў.**

**Дух тытуню і дух аўчыны**
**Закручаны ў адзін клубок.**
**Я сані ў Дзераўной пакіну,**
**Каб сеў ты ў іх ля Налібок.**

**З табою луста, як і трэба.**
**Святло далёкае мігціць.**
**Як снежка, пушчаная небам,**
**За намі поўня ўслед ляціць.**

**Адныя топчам мы сцяжыны,**
**Адны жагнаем абразы,**
**Ды ўслед не сыдземся адзіны,**
**Як два бягучых палазы.**

**Ці ў сон, ці ў свет нясуцца сані,**
**Адны нас двух яны нясуць.**
**І так іграюць палазамі,**
**Ажно накручваюць слязу.**

**Заплачаш часам ці ад болю,**
**Ці ад зайздросніцкай маны.**
**Адныя сані ў нас з табою,**
**І ў пушчы толькі мы адны.**

**І самі здзівімся аднойчы,**
**Калі спагадна-мудры Час**
**Наблізіць так — ну, вочы ў вочы,**
**Плячом так цесна да пляча.**

**Хай сонца іскры высякае**
**І спеў завейны цешыць слых.**
**Праз век суровы мчацца сані,**
**І часта падаем мы з іх.**

**Ды падымаемся,**
**і з лёту**
**У іх куляемся ізноў,**
**Каб за чарговым паваротам**
**Спаткацца з іншаю вясной.**

**І хоць зняверышся часамі,**
**Ды, адвяргаючы адчай,**
**Праз лес, праз лёс нясуцца сані...**
**Не прыпыні іх, строгі Час!**

лес і сад, займеў племянных авечак, вырошчваў плантацыі капусты і г.д. Дастаўшы, на яго думку, выключных японскіх свіней, наняў глядзець іх былога салдата-п'яніцу. Той мусіў узяцца за такую работу з-за кавалка хлеба, але не зразумеў генія і глыбока пакрыўдзіўся, што якраз яму даручылі гэта. Нягоднік так карміў (лепш сказаць, марыў голадам) замежных вепручкоў, што тыя неўзабаве павыцягвалі ногі. А. Фет, сябра талстоўскай сям'і і добры гаспадар, параіў вялікаму пісьменніку дарма не траціць на гаспадарку час і сіл. Т.Кузьміцкая піша, што яе знакаміты швагра не паслухаў гэтай парады, але з усіх яго гаспадарскіх намаганняў давалі плён толькі сад і лес.

●

І Л. Талстому, аказваецца, даставалася ад жонкі: "Господи, — усклікнула аднойчы яго Соф'я Андрэеўна, — посмотришь, у самых обыкновенных людей дети и талантливы, и умные, и учатся. А мой-то гений каких народил!" Альбо: "Сорок восемь лет прожила я со Львом Николаевичем, а так и не узнала, что он был за человек".

●

Давайце скажам абсалютна шчыра: навука, літаратура, культура XIX стагоддзя развіліся нашмат болей у Расіі і ў Польшчы, чым у Беларусі. Гэта — вынік забароны з 1696 года беларускай мовы.

Але акаталічаныя беларусы, беручы ўдзел у змаганні з палякамі за волю Польшчы альбо Рэчы Паспалітай, хораша падумалі: а чаму сумесна не падбаць пра беларускасць? Нізкі паклон ім — Дуніну-Марцінкевічу, Багушэвічу і іншым!

Але глядзіце: афіцыйна права на жыццё беларускай мове дазволілі з 1905 года. І як усё адразу рванула! Купала, Колас, Багдановіч, Гарэцкі і іншыя неверагодна паскорана падхапілі ўзняты папярэднікамі сцяг і літаральна за некалькі дзесяцігоддзяў не толькі ўпэўнілі ўсіх, што была, ёсць і можа быць беларуская культура, але і паднялі яе на высокі ўзровень.

Не будзьма хвалькамі, але не будзем і самаплёўнікамі: у XX стагоддзі нават і пры таталітарнай сістэме, нават і пры невялічкім свежым паветры беларускія вучоныя, пісьменнікі, дзеячы культуры не толькі зраўняліся з польскімі і рускімі...

...Калі нейкі высокаўладны ахламон заяўляе, што беларуская мова не спрыяе яму выяўляць мудрыя думкі, дык і смешна ды горка: ахламоне (не, вуж ты хітры!), быў бы розум, шчырасць, сумленнасць — усё выявіш у любой галіне, гэта яшчэ ў 1517 годзе выключна доказна выявіў СКАРЫНА...

●

Я вельмі люблю, нават больш — як тойсёй, хто не зусім ведае беларускую мову і блытае паняцці "люблю", "кахаю", — я кахаю "Словарь бѣлорусского нарѣчія" І.Насовіча. Але мяне нядаўна глыбока ўразіў Ніл Гілевіч: ён на маё захапленне слоўнікам Насовіча ўсміхнуўся хораша: э, дарагі, Насовіч у асноўным склаў слоўнік рэгіянальны. "Правінцыйны?" — запытаў я з недаўменнем. Не, яшчэ хітрэй усміхнуўся вялікі знаўца беларускай мовы Ніл Сымонавіч, Насовіч склаў свой слоўнік амаль з адных уласна беларускіх слоў, якіх няма ў рускай мове. Русіфікатары пляснулі ў ладкі: "нарѣчіе" абагаціць рускую мову! Ды славісты ўсёй Еўропы ўразіліся: пачакайце, яно, гэтае "нарѣчіе" — арыгінальная і багатая, сакавітая і прыгожая беларуская мова! А гэта... Дзякуйма і Насовічу!

●

З "Французской романтической повести" (Л., "Художественная литература", 1982): "І вось з'яўляюцца дзіўныя, усім ненавісныя істоты, якія шалеюць; і немагчыма зразумець, хто гэта — людзі альбо д'яблы, і што спарадзіла гэтую наслань..."(Пераклад мой).

Адразу ж успомніліся словы Дастаеўскага пра тое, што ў час сумятні, змен напаверхню напорыста выскокваюць языкачосы, авантурысты, хціўцы і прадажнікі, якія імкнуцца захапіць уладу і бязлітасна душаць шчырых і сумленных, а то і сваіх няўгодных саюзнікаў. Пасля іхняй навалы трэба дзесяцігоддзі, а то і стагоддзі, каб акрыяць усяму здароваму.

●

Хто ўважліва за апошнія гады чытаў інтэрв'ю тых, хто цяпер апынуўся ў рулявым цэнтры, не мог не заўважыць: некаторыя з іх — бязбацькавічы, цярпелі абразы і крыўды, упарта змагаліся за выжыванне, плішчыліся ў кожную шчыліну, каб ушыцца ў лік шчасліўцаў, г.зн. у наменклатуру, і кіпелі марай... не, не заступіцца за сваю падманутую маці, але адпомсціць! І помсцяць! Усім! Краіне!

●

Д.Кугульцінаў, "Огонек", 1988: "Думаючы аб прычынах станаўлення тыраніі, я звяртаўся да гісторыі, літаратуры. І вось у пяцьдзесят другім годзе ў Нарыльску купіў кнігу "Рассуждения о добровольном рабстве" Эцьена Ла Баэсі... Баэсі разважае: як тыран становіцца тыранам, прыгнятае мільёны людзей, не маючы на гэта права? Тыраны прыходзяць да ўлады трыма шляхамі: адзін — па праве спадчыны, другі — па праве заваёўніка, трэці — быццам абіраецца народам. І, здавалася б, гэты трэці павінен быць ніштаватым. Але не! Як толькі ён сядае на трон, дык адразу становіцца жорсткім, бо баіцца, як бы не абралі іншага. Якой сілай утрымлівае ўладу. Арміяй? Аховай? Не. Сіла — гэта пяць ці шэсць чалавек, якія здолелі наблізіцца да тырана. Яны падтрымліваюць яго, змушаюць быць злым не толькі ягонай злосцю, але і іхняй. Юлі Цэзар свядома павялічваў колькасць пасад, выдумваў адміністрацыйныя адзінкі, каб як можна больш было пад ім тых, каму выгадная тыранія. Далей Баэсі развівае такую думку. Пакаленням, што нарадзіліся ў рабстве, гэтае рабства здаецца натуральным станам чалавечага жыцця, і яны трымаюцца абедзвюма рукамі за яго. Чытаючы Баэсі, я часткова знаходжу адказы на тыя пытанні, што задае нам сталінская эпоха" (Пераклад мой).

●

За апошнія гады перажываем "этапы большого пути": нападкі на найноўшыя сумленныя беларускія падручнікі і знішчэнне іх у падвалах, глумленне над нацыянальнымі сімваламі, выцісненне беларускай мовы з дзіцячых садкоў, школ і дзяржаўных устаноў, а цяпер вось нас ашчаслівілі... Супольнасцю, якая пакуль што толькі "переходный период..."

Зазірнуў у Тлумачальны слоўнік. Там ёсць і такое: "Супольнік — саўдзельнік, хаўруснік у якіх-небудзь непрыгожых справах, злачынствах". Мы якраз такія супольнікі ў адносінах найперш да саміх сябе???

●

Гісторыя паказвае, што даволі лёгка можна абалваніць кожны народ. Наш — здаецца, надзвычай без вялікіх намаганняў: ён усё яшчэ ўніжаны і самаўніжаецца, без меры любіць легенды, верыць на хітрае слова. Выдумалі чорта — баіцца чорта, падсунулі куміра — любіць куміра, а ён, гэты кумір, — сатана. І што самае страшнае: сатана прывячаецца ў Храме, яго цалуюць вярхоўныя святаслужнікі... Застаецца ўсклікнуць толькі ў роспачы: Божа, ратуй мяне ад атэізму?

●

Да аднаго свайго рамана пра падзеі на Беларусі на пачатку гэтага стагоддзя я ўзяў эпіграфам ленінскія словы. Балюча цытаваць іх, суадносячы да нас многіх, але трэба: "Ніхто не вінаваты ў тым, калі ён нарадзіўся рабом, але раб, які не толькі цураецца імкненняў да сваёй свабоды, але апраўдвае і прыхарошвае сваё рабства.., такі раб ёсць халуй і хам, які выклікае законнае пачуццё абурэння, пагарды і агіды".

Як, ну як выціснуць з душы раба??? Дзе той Майсей, які павадзіў бы нас сорак гадоў па пустыні, каб пасля вывесці адтуль нашых нашчадкаў в о л ь н ы м і людзьмі?

●

Сапраўды, мы і цяпер жывём па прынцыпе, які акрэсліў яшчэ Чэхаў: "...гэта няпраўда, але паколькі народ жыць без гэтай няпраўды не можа, бо яна гістарычна асвечана, дык выкараніць адразу ж яе небяспечна; няхай яна існуе пакуль, толькі з некаторымі папраўкамі".

●

"Не, — сцвярджаў Ф.Дастаеўскі, — тады толькі чалавецтва будзе жыць паўнацэнна, калі кожны народ стане развітым на сваім падмурку і прынясе ад сябе ў агульную суму жыцця нейкі асабліва дасканалы бок".

## ДЭБЮТАВАЎ ДУЭТ...

**Хаця ў складзе гэтага дуэта — добра вядомыя выканаўцы: саліст Акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі Алег Гардынец і саліст філармоніі Аляксандр Мільто. 25 мая артысты выступілі з канцэртам у Камернай зале, што на Залатой Горцы, сабраўшы шматлікую публіку.**

**У I аддзяленні праграмы Алег Гардынец, уладальнік прыгожага, надзіва далікатнага ў сямействе нізкіх галасоў, баса, спяваў пад акампанемент аргана класічныя арыі: Баха, Гендэля, Моцарта, Кальдара, Вердзі...**

**Пасля антракта прыхільнікі акадэмічных вечароў камерна-вакальнай і арганнай музыкі зрабілі для сябе прыемнае адкрыццё, пра што потым узрушана гаварылі, сыходзячы з храмавага ўзвышша ў тлум вулічнага скрыжавання. Бо музыка, якая выконвалася ў II аддзяленні, была невытлумачальна сугучнаю гарманічнаму свету старадаўніх твораў, хаця яна, гэтая музыка, — "дзіця" нашых дзён. Яе аўтар, кампазітар Аляксандр Літвіноўскі, не змог аддзячыць паклонам захопленай публіцы па "ўважлівай прычыне": разам з хорам "Унія" з'ехаў на фестываль у Францыю, прадстаўляць выкананне сваёй "Імшы". А тут, у Мінску, два яго песнеспевы на кананічныя лацінскія тэксты прагучалі ў адухоўленым выкананні А. Гардынца і А. Мільто. Арганіст прадставіў прэлюдыі А. Літвіноўскага — ужо вядомы "Вітраж" і прэм'еру — "Вострабрамская Божая Маці", стварыўшы на некалькі хвілін чароўную атмасферу каляднага душэўнага прасвятлення, свята і замілаванасці. А потым была таксама вядомая і прызнаная суровая драматычная містэрыя "Францыск", выкананне якой вянчалі авацыя і воклічы "брава!" Зала апладзіравала стоячы, але гледачы мусілі ўрэшце заняць зноў свае месцы, бо сур'ёзныя "фрачныя" артысты вырашылі здзівіць публіку вельмі папулярным некалі амерыканскім шлягерам "Цень тваёй усмешкі". Такая вось амаль эксцэнтрычная атрымалася канцоўка...**

**Канцэрт, з якім дэбютаваў новы дуэт, можна вызначыць адным словам: культурны канцэрт. Тут і культура складання праграмы, і культура камернага спявання, якой уразіў малады оперны бас, і культура ансамбля, і культура публікі... Успомніліся канцэрты іншага дуэта: скрыпача Вячаслава Зяленіна ды клавесініста і арганіста Аляксандра Мільто. Падумалася: мо з часам пачуем і трыо — тыя ж ды Алег Гардынец?**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

## РАСЦЕ ЗМЕНА...

**Тыя, хто наведаў Нацыянальны мастацкі музей 18 мая, у Дзень музеяў, маглі трапіць на незвычайную імпрэзу — адкрыццё выставы юных мастакоў ізастудыі "У госці да Цюбіка", якая дзейнічае пры музеі. Выстава была прымеркавана да пяцігоддзя з дня заснавання студыі. У фае музея прываблівалі погляд яркія, незвычайныя карціны, народжаныя дзіцячай фантазіяй. Адміністрацыя музея і перш за ўсё нязменны кіраўнік і заснавальніца ізастудыі Вольга Брыгадная пастараліся, каб прэзентацыя выставы ператварылася ў сапраўднае свята, запамінальнае і для дзяцей, і для іх бацькоў, і для наведвальнікаў. Перад прысутнымі выступілі навучэнцы музычнага ліцэя, з якімі "Цюбік" даўно сябруе і майстэрства якіх неадноўчы служыла юным мастакам крыніцай натхнення на традыцыйных занятках. Парадавалі сваім выступленнем дзіцячы ансамбль старажытнага танца "Менуэт" і студыя бальнага танца пры заводзе "Інтэграл". Знайшліся і сярод юных мастакоў рознабакова адораныя — студэнцы Даніла Краўчанка выканаў з дапамогай партнёркі некалькі бальных танцаў.**

**На імпрэзе прысутнічаў намеснік дырэктара музея Пётр Ходзька. Ён і ўручыў дзецям, якія празаймаліся ў ізастудыі тры гады і больш, пасведчанні юных мастацтвазнаўцаў. Дарэчы, ізастудыя мае мастацтвазнаўчы ўхіл, заняткі часта ператвараюцца ў тэатралізаванае дзейства, і дзеці лёгка засвойваюць аб'ёмісты матэрыял з гісторыі сусветнага мастацтва і мастацтва Беларусі. Іх "падкаванасць" па гэтых пытаннях, немалы творчы і інтэлектуальны патэнцыял відочны па іх працах — тэмамі малюнкаў сталі "Іліяда" і "Адысея", біблейскія сюжэты, музычная класіка, краявіды роднай Беларусі — Нясвіж, Мір, Заслаўе, дзе навучэнцы ізастудыі былі на экскурсіях. Сярод аўтараў самых цікавых работ выставы можна назваць Максіма Агаронава, Аню Бязродную, Дзіму Нанаса, Волю Скрабнёўскую, Зою Войтка, Алёну Маголіну, Машу Асёнак, Вераніку Шніп, Яніну Картэль, Вову Красоткіна. У падрыхтоўцы выставы Вользе Ягенаўне дапамагалі навуковыя супрацоўнікі музея Канстанцін Барабанаў і Ала Чайкоўская. Выстава не магла б адбыцца без спонсарскай падтрымкі фонду Сораса — на грошы, выдзеленыя ім, былі зроблены рамы для малюнкаў.**

**Напярэдадні свята ізастудыі на галерэі музея адбылося адкрыццё выставы мастакоў Паплаўскіх. Георгій Паплаўскі, пазнаёміўшыся з выставай дзіцячых малюнкаў адным з першых, сказаў: "Падрастае наша змена".**

Тэатр

# ДУЭТ НАЗВАЛІ КАНГЕНІЯЛЬНЫМ

11 красавіка сёлетняга года Інсбрукскі гарадскі тэатр (Кёлертэатр) урачыста адсвяткаваў прэм'еру паводле Шэкспіра "Кароль Лір" з Хельмутам Уласакам у галоўнай ролі. Знаным, вядомым, найбуйным акцёрам. Ягонаю партнёркаю выступіла маладзенькая Штэфані Брэнер. Пра вырашэнне ды падрабязнасці, а таксама адметнае паразуменне між персанажамі гэтай шматнаселенай Шэкспіравай п'есы можна даведацца хіба ў рэжысёра і пастаноўшчыка Рыда Таліпава, але ён, усміхаючыся, далікатна не выдае падрабязнасцяў свайго гучнага поспеху ў Аўстрыі. Мацуючы яго, дарэчы, уласнай сцэнаграфіяй, святлом, касцюмамі ды падборам музыкі з Хачатурана і авангардыста Луіджы Нано. Рыд паведаміў, што Хельмут Уласак іграе ў ягоным спектаклі сваю дваццаць пятую ролю з Шэкспіра. Што былі ўжо і Рычард, і Макбет, і Гамлет, і — трыццаць гадоў таму — Рамэо. Ліра Уласаку выпала іграць упершыню, хоць калісьці гэтую п'есу Шэкспіра ён увасабляў разам з партнёрамі ў спектакль. Ідэя сёлетняга адметнага "Ліра" належыць амерыканскаму філосафу Алану Янэку (ён выкладае ва універсітэтах Вены ды Інсбрука) як... галоўнаму драматургу Кёлертэатра. А ставіць ды вырашаць прапанавалі Рыду Таліпаву — першы выпадак у практыцы Рыда. Першы, бо дагэтуль ён сам сабе прыдумваў работу, на запрашэнні ставіць пэўныя творы не адказваў згодаю. Вядома, у даным выпадку ён пагадзіўся. З-за



п'есы. Але Уласак вымагаў прынцыпова новай, адметнай канцэпцыі, найноўшага, мо і авангарднага вырашэння. Дваццаць чатыры Шэкспіравы ролі абавязвалі... Бо сыграць Ліра яму выпала ў шэсцьдзесят сем гадоў, а Ліра, паводле Уласака, можна сыграць толькі

# ФОНД ШЧАСЦЯ ДЛЯ БЕДНЫХ ЛЮДЗЕЙ

### "ДЗІЎНАЯ МІС СЭВІДЖ" Д.ПАТРЫКА НА СЦЭНЕ МАГІЛЁЎСКАГА ТЭАТРА ДРАМЫ І КАМЕДЫІ ІМЯ В.І.ДУНІНА-МАРЦІНКЕВІЧА

"Доктар, а чаму светлякі свецяцца? Магчыма, яны свецяцца ад кахання?" — запытае ў доктара Эмета міс Сэвідж. Але перш, чым яна з'явіцца на сцэне, мы шмат даведаемся пра гэту дзіўную старую мільянерку. Прыёмныя дзеці ўзрушана раскажуць, што іх маці змарнавала дзвесце долараў, каб прывезці нейкаму італьянцу скрыньку зямлі з радзімы, зафрахтавала цэлы параход, на якім тысяча дзяцей здзейснілі захапляючае сусветнае падарожжа, купіла тэатр, дзе сама, не зважаючы на ўзрост і высокае грамадскае становішча, выступіла ў якасці актрысы. І што зусім не ўмяшчаецца ў межы здаровага сэнсу, яна вырашыла стварыць фонд шчасця для бедных людзей, кіраваць якім, акрамя яе, будуць паштар, садоўнік і ветэрынар. Рэспектабельныя дзеці — сенатар Ціт, суддзя Сэмуэл і экстравагантная Лілі-Бэл — прывозяць маці ў "Ціхі прыстанак" — клініку для душэўнахворых. Аднак іх турбуе зусім не здароўе міс Сэвідж. Пасля смерці бацькі кожны атрымаў сваю долю спадчыны, але дзеткі даўно пусцілі яе на вецер. Засталіся толькі грошы маці, якія яна безразважна траціць з іх пункту гледжання, на бязглуздыя і непатрэбныя рэчы. Гэта, так бы мовіць, перадгісторыя. Гісторыя ж пачнецца, калі праз дзвярныя краты прасунецца рука ў чырвонай пальчатцы і зробіць легкадумны прывітальны жэст. Неўзабаве мы ўбачым і саму міс Сэвідж, апранутую ў строгі цёмны касцюм, вось толькі аксесуары да яго — недарэчны чырвоны капялюшык, упрыгожаны пер'ем, такога ж колеру сумачка і чаравікі, здаецца, не зусім адпавядаюць жанчыне сталага ўзросту...

На сцэне Магілёўскага тэатра драмы і камедыі імя В.І.Дуніна-Марцінкевіча ідзе спектакль "Дзіўная міс Сэвідж" амерыканскага драматурга Д.Патрыка, пастаноўку якога ажыццявіў рэжысёр Сяргей Клименка. Сцэнаграфія мастака В.Навакоўскага аднаўляе інтэр'ер пакоя з карункавай мэбляй, сплеценай з тонкіх металічных пруткоў. У глыбіні — шырмы з такімі ж металічнымі перапляценнямі. Пэўнай святочнасці надаюць некалькі яркіх свяцільняў, якія зіхацяць, пераліваючы яркімі промнямі. Першае ўражанне ад мастацкага вобраза — лёгкасць, вытанчанасць, насычанасць святлом і паветрам. Аднак паступова ўзнікае думка, што мэбля намёртва прышрубавана да падлогі. Да таго ж сцэнічная прастора замкнёна грубымі кратамі з сігнальнымі лямпачкамі, якія трывожна ўспыхваюць пры рэзкіх гуках пранізлівага зумера. Адзінай "жывой" дэталлю на сцэне выглядаюць дзіцячыя арэлі з лялькай, якія гайдаюцца, ствараючы ілюзію жыцця, ілюзію руху.

Вось у гэтым халодным нежылым пакоі і з'яўляецца міс Сэвідж (Л.Федчанка), тулячы да сябе вялізнае плюшавае медзведзяня. Яна ўваходзіць, злёгку прытанцоўваючы, нібы супакойваючы самую сябе. Аднак у вачах яе — разгубленасць, насцярожанасць, прадчуванне нечага трывожнага, драматычнага. Жыхары дому смутку ўжо даўно чакаюць міс Сэвідж. Новая пацыентка, ды яшчэ мільянерка — гэта ж такая падзея ў іх аднастайным жыцці. Сцэна першага знаёмства па сваёй танальнасці гучыць шчымліва, кранальна. Перад міс Сэвідж паўстаюць людзі душэўнахворыя, але вельмі добрыя, спагадлівыя. Трапяткая Фэры (А. Грахава), — вечная нявеста ў белай шлюбнай сукенцы з доўгім шалем, прагне нязздзейсненага кахання, для яе жыццёва неабходна, каб кожны дзень хто-небудзь гаварыў ёй пяшчотныя словы. Прывабная Флорэнс (Святлана Кліменка) заклапочана ахоўвае спакой лялькі на арэлях, якая ўвасабляе для няшчаснай маці страчанага сыночка. Прыгнечаная, з патухшым позіркам Пэдзі (Г. Падароўская) толькі зрэдку парушае дваццацігадовае маўчанне наборам гнеўных слоў-праклёнаў на адрас усяго навакольнага свету. Вытанчаны, артыстычны Ганібал (П. Мікулік), беспрацоўны матэматык, што ўяўляе сябе вялікім скрыпачом. І, нарэшце, стрыманы, засяроджаны Джэфры (А. Дваранікаў), выдатны піяніст, чый лёс знявечыла вайна. Да іх далучаецца і элегантная медсястра Вілі (А. Сафронава), жонка Джэфры, якая добраахвотна замкнула сябе за кратамі клінікі, каб быць побач з мужам. Усе яны адчужаны грамадствам, кожны хавае глыбокі асабісты боль, і разам з тым яны надзіва тактоўна, чула ставяцца адзін да аднаго. Выканаўцы гэтых роляў, карыстаючыся пастэльнымі фарбамі, іграюць без націску, ствараючы на сцэне празрыстую атмасферу ўзаемаразумення, дабрыні. Часам узнікае парадаксальная думка, што ўсе яны звычайныя, здаровыя людзі, а хвароба — проста маска, за якой героі хаваюцца ад бязлітаснага, жорсткага свету.

Асабліва востра гэта адчуваецца, калі іх параўноўваеш з так званымі нармальнымі асобамі, якія ўвасабляюць тых, хто мае ўладу. У першай сцэне з доктарам Эметам сенатар Ціт (А.Парфяновіч), суддзя Сэмуэл (А.Кучараў), Лілі-Бэл (Ж.Зарэмба) яшчэ захоўваюць нейкія рысы знешняй рэспектабельнасці людзей вышэйшага свету. Калі ж яны даведваюцца, што маці прадала маёмасць, перавяла грошы ў каштоўныя паперы і схавала іх, прыстойнасць, нібы шалупінне, злятае з іх, адкрываючы сапраўдную існасць мізэрнай чалавечай натуры. Паміж дзецьмі няма паразумення і даверу, адзінае, што іх аб'ядноўвае, гэта нястрымная прага грошай. Дзеля дасягнення сваёй мэты яны гатовы не толькі абвясціць маці вар'яткай, але і абхітрыць, абуць адзін аднаго ў лапці. Апантанасць здабыць грошы любой цаной настолькі вялікая, што яны насуперак усялякай логіцы вераць самай неверагоднай выдумцы маці. Старэйшы сын шукае багацце ў аранжарэі прэзідэнта, малодшы разбірае цагляны камін, які абрынаецца на яго, а дачка распорвае чрава дэльфіна ў заалагічным музеі.

Выканаўцы роляў дзяцей шчодра карыстаюцца камедыйнымі выразнымі сродкамі. Своеасаблівага апагею дасягае камічны напал, калі раз'юшаныя дзеткі, скіраваныя міс Сэвідж па лжывым следзе, вяртаюцца ў клініку з пустымі рукамі. З пластырам на твары, высокі, як жэрдка, нягнуткі сенатар Ціт — Парфяновіч, скурчаны, перабінтаваны суддзя Сэмуэл — Кучараў, кудлатая, без следу колішняга свайго свецкага лоску Лілі-Бэл — Зарэмба выглядаюць даволі маляўнічай кампаніяй. Акцёры на мяжы фарсу, гратэску захоўваюць пачуццё меры і густу, што надае сцэнічным характарам дакладную псіхалагічную абгрунтаванасць.

Паміж дзвюма групамі людзей з полюсна арыентаванай маральнасцю стаіць вобраз міс Сэвідж, па-майстэрску, выдатна сыграны Л. Федчанкай. З фантазіяй і вынаходлівасцю актрыса выяўляе шматмернасць унутранага стану гераіні. Яна паўстае то ўзнёслай і летуценнай, то практычнай і мудрай, то ранімай і безабароннай, то моцнай і мужнай. І за ўсім гэтым — тонкая іронія, дакладнасць, самаіронія, што і надае сцэнічнаму характару непрадказальную свежасць, арыгінальнасць. Міс Сэвідж — Федчанка сэрцам адчула душэўнае багацце сваіх новых сяброў па зняволенні, прыняла ўмовы іх гульні і арганічна ўвайшла ва ўтульны свет сямейнай садружнасці. Шчодра адкрыўшыся дабру, што выпраменьваюць людзі, міс Сэвідж дапамагла выявіць тое лепшае, патаемнае, што хавалася ў іх знявечаных душах. Сцэны з пацыентамі Л. Федчанка выконвае проста, натуральна, з незвычайнай мяккасцю і цеплынёй. Зусім іншая міс Сэвідж ва ўзаемадачыненнях з дзецьмі. Тут адносіны даўно высветлены, няма ніякай надзеі на чалавечае прасвятленне. Таму актрыса дазваляе сваёй гераіні быць бязлітаснай, саркастычнай. Яна ўзнімае смешнае, камедыйнае да ўзроўню трагікамічнага.

Між тым дзеткі, страціўшы чалавечае аблічча, пераступаюць апошнюю мяжу. Яны вырашаюць падвесці маці пад уздзеянне лекаў, у выніку чаго яна вымушана будзе раскрыць

раз у жыцці. І станецца з гэтага выканання або гістарычны правал, або гістарычны ўзлёт. Калі Таліпаў распавёў пра сваё бачанне й разуменне "Ліра", слухачы апладзіравалі. Першым — Уласак. Над спектаклем працавалі шэсць тыдняў (пры гэтым акцёр яшчэ быў заняты ў Вене). Агульнаю тэмай пастаноўкі сталася чалавечая адзінота, чалавечыя перажыванні. Пункт гледжання для аналізу чалавека — аб'ектыўная адзінота. Для Ліра адзінота і вастрэй, і трагічней, бо яго пакідаюць родныя дзеці. Гэта для Рыда Таліпава не толькі гісторыя караля, які добраахвотна кінуў уладарыць, але перадусім гісторыя бацькі, які кароль... Шчымліва мусіць гучаць тэма справядлівасці праз аб'ектыўную несправядлівасць свету, праз тое, што Бог няроўна дзеліць. Самая безвыходная трагедыя Шэкспіра...

"Гэта — сусветны тэатр, — засведчылі "Вячэрнія навіны" з Зальцбурга. — Тут магутны сімвалізм і фантазія складаюць адзіны саюз і адзіны стыль, маюць адзіны корань. Захапляе сцэнаграфія, святло, музычнае суправаджэнне. Сцэна, дзе нам адкрываюцца залатая, чорныя і белыя колеры: гэта смерць, цнатлівасць і ачышчэнне праз пакаянне. Спектакль — практычная філасофія чалавечых учынкаў" (Марыя Прыльмюлер).

"Гэтая пастаноўка — кангеніяльны дуэт рэжысёра Таліпава і вялікага Хельмута Уласака. Гэта гісторыя сэрца, якое разумее, ды галавы, якая адчувае". (Інсбрукскае выданне "ТІР"). Зрэшты, працяг гісторыі галавы ды сэрца можа надарыцца ў Зальцбурзе, горадзе знакамітых фестываляў, дзе Рыду Таліпаву прапанавалі папрацаваць разам з Уласакам. У тым самым гарадскім тэатры, які ўславілі імёны Штайна ды Брандаўэра...

*На здымку: Хельмут Уласак і Штэфані Брэнер на рэпетыцыі.*

**Ж.Л.**

таямніцу схаванага скарбу. Міс Сэвідж разумее, што прайграла няроўную бітву. Аднак час, праведзены ў клініцы, не прайшоў для яе марна. Тут, сярод душэўнахворых, яна зразумела як мізэрнасць карыслівых чалавечых памкненняў, так і сапраўдную існасць чалавечай садружнасці, братэрства. З пагардай, велічна і высакародна міс Сэвідж —Федчанка ўзнімае ў гору неразлучнае медзведзяня, з якога валяцца на падлогу каштоўныя паперы. Пакой раптам агортваецца цемрай, калі ж свяцільні запальваюцца, высвятляецца, што паперы зніклі. Істэрыка Лілі-Бэл, пагрозы сенатара Ціта, дробязная мітусня суддзі Сэмуэла нічога не вырашаюць. Клубы дыму і абгарэлы кавалак акцыі сведчаць пра беззваротную страту багацця. Дзеткам нічога не застаецца, як пакінуць маці ў спакоі...

Адной з лепшых сцэн спектакля стаў момант развітання, калі Флорэнс, Фэры, Пэдзі, Ганібал, Джэфры дораць міс Сэвідж сціплыя рэчы з рэквізіту клінікі. Яны нібыта ахутваюць яе сваёй любоўю, удзячнасцю, душэўнай цеплынёй. Нават Пэдзі парушае шматгадовае маўчанне і вымаўляе некалькі шчырых, прыязных слоў. Вось тут і надыходзіць нечаканая развязка. Медсястра Вілі дастае цэлыя, непашкоджаныя паперы і вяртае іх расчуленай жанчыне. Перад тым, як назаўжды пакінуць "Ціхі прыстанак", міс Сэвідж доўга, з сумам углядаецца ў твары блізкіх людзей. І раптам з хворымі пацыентамі адбываецца дзіўная метамарфоза, амаль што цуд. Адухоўленая Фэры—Грахава ў казачным арэоле светлых валасоў таямніча ўсміхаецца Ганібалу—Мікуліку, які схіляецца да яе ў пачцівым паўпаклоне. Джэфры—Двараннікаў упэўнена, з годнасцю сядзіць за раялем побач з прыгожай, шчаслівай Вілі—Сафронавай. Пэдзі—Падароўская прасветлена глядзіць у далечыню, а Флорэнс—Кліменка замілавана сочыць, як на арэлях замест лялькі гушкаецца сімпатычны хлопчык. Пад настальгічную мелодыю Глена Мілера міс Сэвідж пакідае прытулак смутку, назаўжды захаваўшы ў памяці элегічную карціну ўсеагульнага кахання, светлай радасці, спакою... Трэба было бачыць у той момант твары, вочы гледачоў. Шмат хто, не саромеючыся, плакаў, і слёзы гэтыя як мага лепш засведчылі рэжысёрскую інтуіцыю Сяргея Кліменкі, які дакладна, вельмі да часу выбраў п'есу Д. Патрыка.

"Дзіўная міс Сэвідж" даволі шырока ішла на саюзнай сцэне ў 60-я гг. У ёй ігралі зоркі такой велічыні, як В.Марэцкая, Ф.Ранеўская. Але тады п'еса ставілася пра "вар'яцкі заходні свет з яго дзікунскай буржуазнай мараллю". Пастаноўка бабруйчан вяртае нас да сучасных праблем нашага перакуленага жыцця, апафеозам якога для мяне асабіста з'яўляецца ружовашчокі рэкламны хлопчык з яго бадзёрым заклікам: "Я буду мільянерам!" Магчыма, у прыхільнікаў гэтага новага тыпу героя словы міс Сэвідж пра светлякоў, якія свецяцца ад кахання, выклічуць у лепшым выпадку грэблівую ўсмешку. Але ўявіце сабе на хвіліну, што раптам з усяе зямлі зніклі светлякі і іх радасныя, фантастычныя агеньчыкі больш не рассякаюць начную цемру. Мо "фонд шчасця для бедных людзей" якраз з такой фантастычнай радасці і складаецца?..

**Тамара ГАРОБЧАНКА**

*г.Бабруйск*

Музыка

# МЫ — У "АГУЛЬНАЙ ПРАСТОРЫ"

Самапазнанне культуры — працэс дзіўны і непрадказальны. Здавалася б, першаштуршок і разгортванне яго мусяць быць звязаныя найперш з нейкімі ўнутранымі імпульсамі (інакш — адкуль менавіта **сама**-пазнанне, пазнанне сябе, сваёй **самасці**), з даследчыцкім рухам і здзяйсненнямі. Але ў сапраўднасці аказваецца, што самасць, існасць культуры (удакладню, што маю на ўвазе перш за ўсё нашу старадаўнюю музычную культуру) адкрываецца, выяўляецца не толькі пры набліжэнні да яе даследчыка. І не толькі ў сустрэчным той культуры руху і самараскрыцці — бо яна невытлумачальным, містычным чынам імкнецца нам насустрач. І не толькі ва ўзаемадзеянні з трэцяй, вельмі моцнай субстанцыяй — сённяшнім грамадствам (якому ўрэшце адрасавана і пасланне мінулага, і дзейнасць даследчыкаў па яго ўзнаўленні). Самасць культуры адкрываецца і ва ўзаемадзеянні з зусім, здавалася б, далёкімі сферамі, якія карэкціруюцца ў сваіх стасунках з культурай пастаянна і шматстайна — ад самавызначэння да самаацэнкі і самапавагі.

Асабліва бачна гэта, калі выязджаеш за мяжу. Паколькі здараецца тое нячаста, змены ў адносінах да нас і да нашай музычнай спадчыны падаюцца заўсёды вельмі значнымі. Яны адбываюцца, напэўна, паралельна зменам адносін да сябе і да сваёй гісторыі.

Памятаю, як у 80-я гады ўпершыню прыехала ў Польшчу шукаць матэрыялы — самотная і няўпэўненая (бадай, толькі навуковы кіраўнік і некалькі калег падтрымлівалі тады), з дзівацкімі планамі, эфемернымі надзеямі і такім "скарбам" у кішэні (да сённяшняга дня захоўваю чэкі, атрыманыя за пярсцёнак маці і свае завушніцы), якога не тое што на ежу і начлег, а нават на ксеракопіі і чыгуначны квіток ледзь хапіла. Тады сустрэлі мяне за мяжой са здзіўленнем: "Пані з Росії, шука польске матэрыялы?" Зараз жа, калі да нашага грамадства, дакладней, да часткі яго, прыйшло разуменне і ўсведамленне пазнаваўчай і мастацкай каштоўнасці нашага музычнага мінулага, неабходнасці ўзнаўлення і ведання яго, калі распрацаваны адпаведныя праграмы па вяртанні музычнай спадчыны Беларусі і робіцца тая справа гуртам, пры падтрымцы сваіх і іншаземных фондаў (сумуем, канешне, што недастатковай, бо адных нотных матэрыялаў, якія трэба адзняць, выдаць і выканаць — мора), і за мяжой успрымаецца ўсё інакш: "Для пані з Бялорусі зробімы вышэстко". І далей — прапановы паказаць першадрукі і рукапісы Голанда, Агінскага, Манюшкі. А потым — выказанае на беларуска-польскай мяшанцы здзіўленне, чаму мы не маем магчымасці адксеракапіраваць, скажам, усе Манюшкавы першадрукі: "Ён жа ўродзіўся, жыў і працаваў у вас". І, нарэшце, згода з маёй заўвагай, што шмат чаго адбывалася і шмат хто з вядомых музыкантаў нарадзіўся і жыў менавіта "ў нас": "Натуральна, мы ж існавалі ў адзінай культурнай прасторы".

Сапраўды, у адзінай, падумалася мне сёлета, калі, перабіраючы каталогі Бібліятэкі Нарадовай у Варшаве, зноў і зноў сустракала знаёмыя прозвішчы. У прасторы, якая фарміравалася пры найактыўнейшым удзеле нашых (канешне ж, агульных нашых, звязаных з культурай не толькі Беларусі, але й Польшчы, Летувы, Расіі, Германіі, Францыі, Чэхіі, іншых




*Факсімільнае выданне твораў Тадэвуша Касцюшкі.*




*Першае выданне падручніка С. Манюшкі.*

краін, але сёння для нас — перад усім — **нашых**) дзеячаў. За што ні вазьміся — паўсюль адчуваецца іх "рука". Першыя польскія оперы (не гаворачы ўжо аб польскамоўных, створаных на Беларусі) звязаны з імёнамі драматургаў-беларусаў Ф.Багамольца і Ф.Князьніна — тое яшчэ калісьці заўважыў І.Бэлза. Гісторыя станаўлення, трансфармацыі і пераасэнсавання жанру паланеза — зноў жа, звязана з творчасцю нашых кампазітараў — М.Радзівіла, В.Казлоўскага, М.Каз. і М.Кл.Агінскіх, Т.Касцюшкі і Я.Голанда. Музычна-тэарэтычная думка таксама развівалася намаганнямі ўраджэнцаў і дзеячаў Беларусі — А.Варанца, Н.Орды, С.Манюшкі, Я.Голанда. Відаць, у працэсе ўзаемадзеяння ўсходніх і заходніх (у межах колішняй Рэчы Паспалітай) музычна-культурных плыняў нашай культуры давялося ўзяць на сябе місію, так бы мовіць, культуры-донара, якая выпеставала многіх сыноў сваіх не толькі для сябе, але і для іншых культур, бо, вядома, так склаўся лёс, што пасля разбурэння ўсталяванай стагоддзямі музычна-культурнай сістэмы, пэўнай мастацкай фармацыі, лепшым прадстаўнікам не знайшлося месца а ні на зямлі сваёй, а ні ў памяці нашчадкаў. Але культуры, як і людзі, аддаючы, — абавязкова набываюць. Няхай не адразу, але набываюць. І моц сваю, і аўтарытэт, і адпаведнае да сябе стаўленне, нягледзячы ні на якія "змены курсаў". Менавіта ў гэтым, падумалася мне, наш паратунак у цяперашнім і надзея на будучыню.

Што ж да матэрыялаў, якія ўдалося апошнім разам атрымаць у Варшаве — на гэты раз дзякуючы дапамозе Фундацыі імя Ю. Мяноўскага, дык гаворка пра іх — наперадзе. Пакуль жа прапаную зацікаўленым чытачам звярнуць увагу на ілюстрацыі.

**Вольга ДАДЗІЁМАВА**




*А зараз — асаблівая ўвага. Гэта—здымак тытульнага аркуша толькі што выдадзенага Бібліятэкай Нарадовай трохтомнага збору мазурак, сярод якіх ёсць і творы нашых кампазітараў. Выданне (укладальнікам, рэдактарам і аўтарам яго грунтоўных каментарыяў з'яўляецца супрацоўніца бібліятэкі Э.Вансоўская) заснаванае на першадруках і рукапісах твораў 19—20 стст. Думаю, гэтая інфармацыя зацікавіць у першую чаргу тых, хто займаецца камплектацыяй збораў нашых бібліятэк (куды, на жаль, не заўсёды даходзяць такія звесткі) і ўсіх, для каго неабыякавая гісторыя музычнага мастацтва.*

# КАЛІ ВЫХОДЗІШ НА СЦЭНУ

Музычнае жыццё ў Акадэміі музыкі развіваецца вельмі інтэнсіўна. Аднак павышаную цікавасць у публікі выклікаюць толькі "нестандартныя" канцэрты, імпрэзы. Адной з такіх "нешараговых" падзей сталася пастаноўка оперы П.Чайкоўскага "Яўгеній Анегін" сіламі опернай студыі. Выканаўцы галоўных партый Таццяны і Анегіна — студэнты пятага курса Л.Кузьміцкая і А.Краснадубскі такім чынам здалі дзяржаўны іспыт.

Лідзія Кузьміцкая — уладальніца лірыка-драматычнага сапрана, голасу прыгожага тэмбру поўнага дыяпазону. Сур'ёзнае знаёмства з оперным рэпертуарам для яе пачалося з опернага класа і працягнулася ў опернай студыі. Ужо на другім курсе Ліда спявала ў оперы "Так робяць усе жанчыны" Моцарта. На трэцім выступіла з партыяй Катарыны ў оперы "Утаймаванне свавольніцы" Шабаліна. Складаная партыя Нэды ў "Паяцах" Леанкавала была ў рэпертуары студэнткі на чацвёртым курсе. І вось, на заканчэнне акадэміі — сустрэча з мяккім, прыгожым, лірычным вобразам Таццяны...

У дзяцінстве Ліда быць спявачкай не збіралася. Хацела паступаць у педагагічны інстытут, марыла і аб прафесіі актрысы драматычнага тэатра. Аднойчы яе запрасілі на канцэрт класа выкладчыцы Брэсцкага музычнага вучылішча Р.Сакалоўскай, пасля чаго дзяўчынка вырашыла паспрабаваць спяваць. Хутка яна паступіла ў вучылішча ў клас гэтай настаўніцы, пачала ўдзельнічаць у канцэртах. І калі вучылася на апошнім курсе, узяла ўдзел у конкурсе вакалістаў імя Л.Александроўскай, дзе заняла трэцяе месца. Далей Ліда без вялікіх намаганняў паступіла ў кансерваторыю ў клас народнай артысткі Беларусі І.Шыкуновай. "Мы "закахаліся" адно ў аднаго з першых дзён, нас зблізіла эмацыянальнасць", — кажа Л.Кузьміцкая.

Не ўсё было гладка спачатку. Дзяўчына прыйшла з вучылішча з праблемамі ў гучанні голасу ў сярэднім і верхнім рэгістрах. На працягу пяці гадоў новаму педагогу давялося зжываць старое. Ірына Шыкунова запаслася цярпеннем, і Ліда, дзякуючы сваёй працавітасці, дапытлівасці, апантанасці, заспявала па-новаму, прафесійна. Да адметных якасцей маладой вакалісткі варта аднесці і фізічную трываласць: яна заўсёды "ў форме", нягледзячы ні на якія хваробы працуе на поўную сілу. Яна хутка і годна вывучае рэпертуар, цяпер у яе "багажы" творы Вердзі, Чайкоўскага, Пучыні, Мусаргскага.

Нядаўна Л.Кузьміцкая ўдзельнічала ў канцэрце, які праходзіў у Гасцёўні У.Галубка. Яна выканала арыю Графіні з оперы "Вяселле Фігара" Моцарта, малітву Тоскі з аднайменнай оперы Пучыні, арыёза Лізы з "Пікавай дамы" Чайкоўскага, рамансы Гліэра, Рахманінава, беларускую песню "А мой мілы захварэў", іншыя творы. Вельмі пранікліва, тонка прагучалі рамансы Гліэра, запомнілася слухачам і арыя Тоскі. Самым складаным кампазітарам у гэтай праграме для спявачкі аказаўся Моцарт. "На Моцарце ўсё чутно, таму я з ім яшчэ не вельмі сябрую", — прызнаецца яна. Дый галоўная праца над арыяй Графіні наперадзе таксама.

У дадатак да голасу яна мае ўсё, каб стаць опернай спявачкай: сцэнічнасць, раскаванасць, унутраную змястоўнасць, інтэлект. І вось ужо другі год Ліда працуе ў тэатры музычнай камедыі, што немалаважна для набыцця тэатральнага вопыту. Ёй ужо даверана галоўная роля Марыцы ў аднайменнай аперэце Кальмана.

Аднак марыць Ліда ўсё ж спяваць Аіду, Тоску, Батэрфляй, Таццяну. І я спадзяюся, шт "таленавіты чалавечак", як называе сваю студэнтку І.Шыкунова, "праб'ецца" на оперную сцэну. Маладая спявачка дастаткова крытычна адносіцца да сябе. Ведае: каб чаго-небудзь дасягнуць, трэба шмат працаваць, бо, з яе ж слоў, — "толькі калі выходзіш на сцэну, разумееш, чаго ты яшчэ не зрабіў".

**Наталля КСЁНЦ**

## ЖЫЦЦЁ, ЯК ЗНІЧКА...

**На майскія дні прыпала 100-годдзе з дня нараджэння паэта, публіцыста, асветніка Ігната Канчэўскага. Дакладная дата яго нараджэння невядома, адно можна сказаць, што гэта май 1896 года. Упершыню зірнуў на свет І. Канчэўскі ў Вільні, там жа і пайшоў з жыцця 21 красавіка 1923 года, стаўшы яшчэ адной ахвярай сухотаў, цяжкай хваробы, якая, як вядома, заўчасна забрала з жыцця многіх выдатных прадстаўнікоў нацыянальнай культуры. А што І. Канчэўскі належыць да шэрагу іх, сумнявацца не даводзіцца: ён пакінуў пасля сябе глыбокі след.**

**І. Канчэўскі ў 1913 годзе скончыў Віленскае рэальнае вучылішча, вучыўся ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце, на гісторыка-філалагічным факультэце Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта. У 1916 годзе, прызваны ў царскую армію, скончыў афіцэрскае вучылішча. У званні прапаршчыка апынуўся на Румынскім фронце. Увосень 1917-га года І. Канчэўскі вучыцца на Вышэйшых кааператыўных курсах пры народным універсітэце імя А. Шаняўскага ў Маскве, пасля заканчэння іх працуе інструктарам Цэнтральнага саюза льнаводаў.**

**Калі была абвешчана БССР, пераязджае ў Мінск, становіцца інструктарам Саўнаркама. З утварэннем Літоўска-Беларускай ССР І. Канчэўскі вяртаецца ў Вільню. З 1920 года ён — канторскі служачы Віленскага Саюза беларускіх кааператараў.**

**На гэты час прыпадае яго актыўная літаратурная дзейнасць. З артыкуламі, нарысамі, вершамі І. Канчэўскі выступае ў газетах "Наш сцяг", "Наша думка", "Наша будучыня", "Беларускія ведамасці", займаецца і перакладчыцкай справай. Да ўсяго вядзе вучнёўскі гуртох па геаграфіі ў Віленскай беларускай гімназіі, удзельнічае ў рабоце падпольнай Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі.**

**Выступаў як пад уласным прозвішчам, так і пад псеўданімамі Ігнат Абдзіраловіч, Ганна Галубятка. Пад псеўданімам І. Абдзіраловіч у 1921 годзе пабачыла свет і яго асноўная праца "Адвечным шляхам. Даследзіны беларускага светапогляду", у якой асэнсоўваецца беларускі нацыянальна-вызваленчы рух, вытлумачваюцца яго філасофскія і палітычныя асновы.**

**Як вядома, Ігнат Абдзіраловіч — адзін з герояў аповесці М. Гарэцкага "Дзве душы". "Роднасць" яго з псеўданімам І. Канчэўскага невыпадковая. Асноўныя ідэі, абгрунтаваныя ў працы "Адвечным шляхам", і знайшлі свой водгук у "Дзвюх душах". Больш за тое: яны, як адгалоскі, прысутнічаюць у асобных вершах са зборніка Л. Родзевіча "Беларусь", у творах з кнігі У. Жылкі "Уяўленне", вершах І. Дварчаніна, К. Сваяка.**

**Што да вершаў самога І. Канчэўскага, дык яны пры больш спрыяльным часе могуць прыйсці да чытача. Яго рукапісны зборнік "Паэзія" захоўваецца ў фондах Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы.**

## ПАД АПЕКАЙ "МІЛАСЭРНАСЦІ"

**Крыху больш года пры Петрыкаўскай цэнтральнай раённай бібліятэцы дзейнічае гарадскі клуб "Міласэрнасць", дэвізам якога сталі словы "Спяшайся рабіць дабро". Узначальвае яго бібліятэкар Р.Сямёнава, а членамі з'яўляюцца ветэраны вайны і працы.**

**За гэты час праведзена каля двух дзесяткаў пасяджэнняў: "Не старэюць душой ветэраны", "Адгаварыў гай залаты" (па творчасці С.Ясеніна), "Фотаздымак з сямейнага альбома" і многія іншыя. Аргкамітэтам клуба арганізаваны паездкі ў вёску Навасёлкі ў музей дзеда Талаша, адпачынак на цеплаходзе па Прыпяці. Аказана значная матэрыяльная падтрымка і раздача бібліятэчак адзінокім састарэлым. Ветэранскім хорам пры РДК праведзены дабрачынныя канцэрты ў Бяланавічах і Капаткевіцкім інтэрнаце для састарэлых.**

**Людзі ва ўзросце часта хварэюць, а набыць лекі падчас няма за што. Ці можна абысціся без іх? Адказ на гэта пытанне пастараліся знайсці на "пасядзелках" "Дапамажы сабе сам" (тайны народнай медыцыны). На іх запрашалася ўрач-тэрапеўт Л.Харашылава, якая ў далейшым узяла своеасаблівае шэфства над "Міласэрнасцю".**

**Вельмі цікава прайшло і апошняе пасяджэнне "Свет выратуе дабрыня". Удзел у ім узяў настаяцель мясцовага прыходу айцец Васіль Немаш. Сваю новую работу — спектакль па камедыі Л.Родзевіча "ПСХ" ("Пільнуй сваю хату") паказаў калектыў Капаткевіцкага народнага драмтэатра. Парадавалі сваімі песнямі ўдзельніцы хору ветэранаў.**

**Ад папярэдняга продажу білетаў сабрана звыш 1300 тысяч рублёў. Асабліва актыўна набывалі іх калектывы лясгаса, камунгаса, Аграпрамбанка, райаддзела міліцыі, хлебазавода, райсельэнерга, керамзітавага завода, музычнай школы і спецшколы-інтэрната.**

**Увесь збор пойдзе на аказанне дапамогі адзінокім і хворым састарэлым.**

**А. ЛІСІЦКІ**
*г. Петрыкаў*



# ЧАТЫРЫ ПЕСНІ МІХАСЯ РУДКОЎСКАГА

## ДА 60-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

НЕПАПРАЎНЫ рамантык, летуценнік і аптыміст, Міхась Рудкоўскі, хаця мы зналіся і сябравалі добрую чвэрць веку, ні ў маладыя, ні ў сталыя гады, здаецца, ні разу не паскардзіўся на сум і адзіноту. Ды гэтая скарга ўсё часцей і часцей, а з узростам, дык асабліва, прарываецца ў ягоныя вершы, і сёння, калі перачытваеш напісанае ім, без ценю сумнення пераконваешся: такі паэт нам быў патрэбны, і ён прыйшоў, і сказаў свае, Богам дадзеныя, словы, нягледзячы на крутыя павароты ўласнага жыцця. Не ведаю, пра каго тут правільней гаварыць — ці пра самога творцу, ці пра яго лірычнага героя, але сапраўдным згусткам болю і горычы стаў непадробна шчыры "Самотны санет" з кнігі "Засцярога". Ён, мусіць, і напісаўся ў вусцішную, трывожна-роздумную ноч, "калі аціхне горад і Мілавіца свеціцца ў акне", а былое і пеpажытае з неадчэпнай думкай пра наканаванасць лёсу аж да золкага світання стаяць перад вачыма.

**...І дзень за днём —**
**нібы за кропляй кропля,**
**І дзень за днём — нібы за лістам ліст...**
**Душа тупее, гасне, гасне мысль,**
**І небасхіл сціскаецца да кроплі.**

**Тут я чужы**
**І там амаль чужы,**
**Тут — самавязень,**
**Там жа — госць нязваны...**
**Як позна-позна**
**і так рана-рана!**
**Далёкая, прашу: дапамажы!**

Збавеннем для спакутаванай і збалелай душы заўсёды былі вершы — вершы без фальшу і гучных падробак, і, можа, іменна таму ў паэзію М. Рудкоўскага ўваходзіш як у храм гармоніі і хараства, праўдзівай спавядальнасці і ачышчэння душы, рамантычна-ўзнёслых і ўзвышаных пачуццяў. У храме, між іншым, ёсць месца прароцтву. На першы погляд, нявінны радок "Паэт — агонь, таму згарэў так рана" ў свой час выклікаў пратэст ва Уладзіміра Калесніка, які залічыў яго на кошт звычайнай творчай дэпрэсіі. Аднак праўда за М. Рудкоўскім: паэт — агонь. Здзіўляе, што эпіграфам да "Самотнага санета" ён паставіў словы М. Лынькова: "Як позна-позна! І як рана-рана!" Думаецца, не крызіс, а глыбокая душэўная патрэба стала прычынай для напісання верша "Прад тым як упасці", напоўненага трывожным клопатам пра скутак і плён сваёй паэтычнай працы. Гэты верш настолькі ёмкі, так густа "замешаны", што вырваць з тэксту нейкі асобны радок проста немагчыма, таму прывяду яго цалкам:

**Прад тым як упасці,**
**Навекі прапасці,**
**Песні чатыры хацеў бы я скласці.**
**Найпершая песня —**
**Маці,**
**Што ў муках мяне нарадзіла;**
**А песня другая —**
**Айчыне,**
**Што сілу дала мне і крылы;**
**А трэцяя песня —**
**Каханай,**
**З якой і ў нягодах быў шчасны;**
**Чацвёртая —**
**і апошняя —**
**Сонцу,**
**Каб людзям свяціла ўсёчасна,**
**Бясконца.**
**Ці ўспею іх скласці,**
**Не знаю,**
**не знаю, —**
**Паціху складаю...**

Сваю найпершую песню, прысвечаную Маці, М. Рудкоўскі склаў, прынамсі, паспеў скласці, гэты светлы і мілы вобраз, як і ўвогуле вобраз беларускай жанчыны, жыве пастаянна ў вершах паэта, найбольш поўна і ярка паўстаўшы ўжо ў другой яго кнізе "Сінія Брады". Вобраз маці — не проста сімвал. "У хвіліну трудную, у часіну шчасную" М. Рудкоўскі не раз вяртаецца дадому, на свае сінія і родныя брады, якія сталі для яго "як замова матулі ад напасці-бяды". І перад ёю, самай дарагой на свеце жанчынай, удзячны сын у неадплатным даўгу: "за кожную ноч, што ты недаспала, у калысцы мяне люляючы", "за кожны хлеба акраец, што ты не з'ела, на дарогу мне пакідаючы". Маці памалілася "травам, дрэвам і птушкам", каб "безнадзейна хворы" ён вочы расплюшчыў, а суседка патушыла свечку, маці памалілася сонцу, каб "з разбітай у кроў галавою" ён падняўся з зямлі. Можа, таму найпершая песня М. Рудкоўскага такая шчымлівая, непадкупная, поўная гарачай сынавай любові.

Паэтычны слоўнік, навеяны роднымі мясцінамі, любімымі вобразамі і з'явамі, яшчэ нічым не выклікае насцярожанасці і трывогі, калі не лічыць нібы сказанага мімаходзь напамінку пра "край абеліскаў, курганоў, крыжоў". І раптам, праз шматкроп'е, з новага радка, нечаканае, трагічна-журботнае прызнанне: "Каб маму мог — на міг — з зямлі падняць я, — я кулікам у той бы край пайшоў..." Непазбежнасць апошняй дарогі ў зямным жыцці, а іншы раз і проста ў зямным існаванні, пачынае яскрава ўсведамляцца адразу, як толькі не стане той, што малілася за цябе "травам, дрэвам і сонцу":

**Прыедзеш дадому, у кут запаветны —**
**Як брата цябе сустракаюць.**
**Хапае ўсяго у застоллі прыветным,**
**І толькі яе не хапае.**

**І добра табе, і гасцінна ў хаце,**
**Ды толькі (ці гэта здаецца?)**
**Чамусьці бацькоўская хата без маці —**
**Што грудзі жывыя без сэрца.**

Перад вяртаннем на Векавечную Бацькаўшчыну (так, дарэчы, называецца адна з кніг М. Рудкоўскага) паэт раней выціраў ногі, выціраў душу, бо "што маме добрай я сваёй скажу?", ды і пазней прага самаачышчэння не прайшла, хоць у старой, з буслянкай, хаце няма ўжо бацькі, няма і маці, а сказаць "Дзень добры" можна толькі бярозе, якая "над маленствам маім стаяла, пяшчотная, добрая, быццам матуля, стаяла..." Вобраз бярозы тут невыпадковы: раз за разам, паступова — ад згадак пра маці, успамінаў пра яе нязгойны смутак — вобраз гэтай белай бярозы ператвараецца ў ёмісты, маштабны вобраз "нескаронае воляй і духам" зямлі Скарыны і Купалы, дзе паэт "усюды знаходзіў гасціннасць і шчырасць", бо і падымалася, мужнела родная Беларусь працай дзеда, які "гартаваў і сярпы і нарогі", працай бацькі, які тут "крочыў з сяўнёй".

**У кашулі з шаўкоў**
**белавежскіх спакойна-блакітных,**
**Падперазаны Нёмнам,**
**спаткаўшы світання зару,**
**З галавой непакрытай,**
**з душою, бы неба, адкрытай,**
**Як з матуляй, з табой**
**я іду,**
**гавару**
**і твару.**

Паэт, як сказаў пра яго У. Калеснік — "рыцар шчырасці, сумлення і красы", сваю другую песню, пачаўшы яе ў "Першых вёрстах", напоўніў роснай свежасцю ў "Сініх Брадах", значна расшырыў у "Позвах" напаіў чыстымі крыніцамі ў "Векавечнай Бацькаўшчыне" і да высокага мастацкага гучання давёў у наступных паэтычных зборніках "Трыгор'е", "Засцярога" і іншых. Без сумнення, сімвалам Айчыны для яго стала метафара Сінія Брады, і гэта не алегорыя, не мастацкі троп, а жывая і чарадзейная вада, у якую трэба апусціць далоні, і "рукі не могуць зрабіць справы бруднае", да струменьчыка тае вады трэба дакрануцца сэрцам, і "сэрца будзе да скону шчырае".

Дзіця вайны, Міхась Рудкоўскі, уваходзячы ў паэзію разам з першым пасляваенным прызывам, аддаў належную даніну тэме мужнасці і гераізму, бо шчыміць і баліць незагоеная рана, нічога не можа забыць не такая ўжо і наіўная дзіцячая памяць:

**Суніцамі пахне даліна...**
**Свой статак пусціў я на верас,**
**а сам па акопах зарослых,**
**без шапкі і босы, я лажу,**
**рву ягады, кідаю ў рот,**
**Смяюся вавёркам і сонцу...**
**і раптам**
**зубы сціскаю ад болю:**
**скручаны дрот мне ўпіваецца ў ногі**
**дзесяткамі стоеных джал.**
**Я плачу...**
**Суніцамі пахне Айчына...**

Вершы пра мінулую вайну ў творчай спадчыне М. Рудкоўскага займаюць увогуле нямнога месца, і хоць сапраўдных удач і знаходак тут даволі шмат, але нават сярод іх моцным, сканцэнтраваным пачуццём усё ж вылучаецца "Балада пра маіх аднагодкаў". Размова ў ёй ідзе пра спаленую фашыстамі вёску Красніцу, што стаяла непадалёк ад Выганаўскага возера, і "тут, на месцы вёскі, сёння сасоннік стаіць — гонкі, балючы сасоннік". Спыніся, паслухай — кажа паэт. "То не сосны рыпяць — асверы, то не глушцы будзяць зоры — пеўні, не званочкі глядзяць — а вочы, вочы смутныя хлапчукоў, што навек засталіся імі — грыбнікамі і пастушкамі..."

Мусіць, невыпадкова многія свае вершы, навеяныя ўспамінамі ваеннага дзяцінства, паэт называе баладамі — "Балада пра мужнасць", "Балада пра палаючы ліст", "Балада тыфознай зімы 44 года", "Балада пра несмяротнасць" і нават тыя вершы, у якіх спецыяльна не падкрэсліваецца іх жанр — "Бабіна лета", "Ліпеньскі роздум", "Каменні цытадэлі", "Размова з доктарам Ветцалем", таксама нясуць яркія прыкметы балады — перш за ўсё драматычна-напружаным сюжэтам, героіка-рамантычнай прыўзнятасцю, сціcласцю і дакладнасцю кожнага слова.

М. Рудкоўскі з'яўляецца выдатным майстрам гэтага ліра-эпічнага жанру, але аднолькава падуладны яму быліны, легенды, біблейскія і касмічныя міфы. Проціпастаўленне дабра і



зла, матывы вернасці і здрады, закляцці і элементы чарадзейства — не проста фальклорныя прыёмы, а сведчанне цеснай сувязі паэта з роднай зямлёй, на якой, у рэшце рэшт, і нараджаюцца героіка-рамантычныя балады, глыбока патрыятычныя быліны і паданні. Узорам высокага служэння Айчыне можа стаць, напрыклад, "Берасцейская быліна", дзе міфічны "Берасцея, высокі і дужы, у зямлю першы камень паклаў". Сказ пра Бацькаўшчыну ў ягонай паэзіі непадкупна шчыры, усхваляваны і цэласны. Айчына перад вачыма летуценніка паяўляецца то ў постацях не адзін раз апетай ім бярозы-маці і суцішна-сарамлівай алешынкі — "сіраты Алесенькі", то ў вобразах таго ж легендарнага Берасцеі і не менш легендарнага дзеда — простага каваля.

**Мой дзед быў сельскім кавалём,**
**кавальскай справы каралём:**
**калі каваць — ужо каваў,**
**не ў хаце — ў кузні начаваў,**
**а балявать — дык балявать**
**і дзень, і два, і тры, і пяць.**

Па-быліннаму разняволены і напеўны пачатак гэтага хрэстаматыйнага верша нагадвае вядомыя беларускія народныя казкі, ды ўсе яны, сучасныя волаты і асілкі — салдаты, ратаі, жывуць і працуюць на той зямлі, дзе ў паэта застаўся бераг дзяцінства — бераг выраю, бераг Айчыны.

Песня Айчыне, хоць і засталася недапетай па волі лёсу, нясе ў сабе навізну думак, суразмернасць зместу і формы, што, зрэшты, уласціва любому высокаму мастацтву. Але ж ёсць у М. Рудкоўскага і яго трэцяя песня — "песня Каханай, з якой і ў нягодах быў шчасны!" Рамантычны тып кахання, прапанаваны паэтам, вызвалены ад цялеснай заміламанасці: у ім гарэнне душы, чалавечнасць любоўных адносін, узвышэнне інтымных сімвалаў, якім, здаецца, няма і не будзе канца. Жыццё і шчасце побач ідуць там, дзе іх праз церні і пакуты вядуць светлыя, шчырыя пачуцці, роднасць сэрцаў і духу. Песня Каханай мае глыбокі лірычны зачын, трывалыя карані, якія з мораку летніх начэй прабіліся калісьці ў родным Востраве, але ўжо тады, у далёкім юнацтве, на небасхіле паэта завіхрыліся, праплылі першыя шэрыя хмурынкі:

**Ты пайшла.**
**Не сказала на ростань ні слова.**
**І няхай!..**
**Я не стану прасіць,**
**бо каханне — не просяць.**

Напэўна ж, у лірычнага героя М. Рудкоўскага быў свой ідэал дружбы і сяброўства,

кахання і вернасці, які ён імкнуўся зразумець усё жыццё. Каханая ішла да яго з "цемры густых першародных лясоў", яна прыйшла, сустрэлася на маленькім паўстанку, "уся ў блакіце і сонцы", але — зноў і аднойчы з навярэджанай душы вырвецца горкае прызнанне:

**І шкадую я**
**і не шкадую —**
**не паправіць таго у жыцці:**
**адпусціў я цябе, маладую,**
**назаўсёды цябе адпусціў...**

Рамантычная лірыка кахання, якая ўмясцілася ў прамежку паміж далёкімі па часе напісання "Баладай пра маю каханую" і пранізлівым, да болю адчайным вершам "Прыйдзі!", усё ж поўніцца чысцінёй пачуццяў, хараством і пяшчотай, выкліканых зачараванымройным вобразам любімай жанчыны. Яна, гэтая жанчына, прыходзіць уначы і дасвеццем, прыходзіць у сны і наяве, яна жыве ў кожным вясеннім і асеннім успаміне, і лірычнаму герою паэта усё зразумела: "Кахаць цябе — забыць сябе самога, згубіць цябе — у вечнай скрусе жыць, бадзяцца блудным ценем па дарогах".

Песня Каханай ад верша да верша, ад юнацкіх да сталых вёсен неўпрыкмет перарасла ў сапраўдны гімн каханню, асветленаму да таго ж і чацвёртай, апошняй, песняй — "песняй Сонцу, каб людзям свяціла ўсёчасна, бясконца". У паэзіі М. Рудкоўскага сонца — не проста нябеснае цела, яно — крыніца нялёгкага шчасця, акрамя ўсяго іншага, гэта асаблівы прадмет пакланення і захаплення паэта, аб чым сведчыць, напрыклад, яго чароўная "Балада пра купальскае сонца".

Песня Сонцу — зноў жа, метафара, абагульнены вобраз хараства, а складаецца яна з дзівосна інструктаваных паэтычнымі тропамі вершаў пра беларускую прыроду. М. Рудкоўскі не малюе проста пейзажы: на фоне ялін, сосен і бяроз праходзяць "горычы ўчарашнія і боль". Прыгажосць бацькоўскай зямлі лечыць, вызваляе ад змрочных дум, вяртае да радасці жыцця. Эстэтыка пейзажнай лірыкі для паэта — у ачышчэнні душы, абнаўленні пачуццяў, і яна прасціраецца далёка за межы родных ваколіц і аселіц. Многія творцы Брэстчыны складалі, часам і неблагія, панегірыкі Белавежскай пушчы, але пальма першынства, слава адкрыцця яе шырокаму чытачу, безумоўна, належыць М. Рудкоўскаму. Вершаў, прысвечаных Белавежы — старажытнаму і да канца не асэнсаванаму краю, у паэта вельмі шмат, і кожны з іх лепшы за папярэдні — "Балада пра пушчанскі спакой", "Апошні блакітны алень", "Зубр-адзінец", "Буслы", "Лясная элегія", "У лясах", нарэшце, у нейкай ступені вызначальны, праграмны верш "Чытаю па складах і думаю..."

**Мы помнім выразна і свежа,**
**што спее ў Турцыі ў садах,**
**а казку дзіўнай Белавежы**
**ледзь разбіраем па складах.**
**І ўсё часцей — не без падставы —**
**на думцы я сябе лаўлю:**
**як не хапае нам настаўнікаў,**
**што знаюць родную зямлю,**
**яе красу, яе багацці**
**і песні вечнай дабраты...**

Але не трэба думаць, што вершы паэта маюць быццам звужаныя рамкі, умяшчаюцца толькі ў аб'ём, акрэслены роднымі даляглядамі і той жа Белавежскай пушчай. У ягонай паэзіі — Куінджы-геній і нерашучы Радэн, сляпы Гамер і глухі Бетховен, чысціоля Луі Пастэр і ўсемагутны Архімед... Далёка сягала думка паэта. Ён мог уздзець на сябе тогу лянівага рымскага патрыцыя, асядлаць донкіхотаўскага Расінанта, на роўных паразмаўляць з Плініем Старэйшым. Ды нязменна з барагоў Грэнады і сонечнай Таўрыды, з касмічных вышынь ("Балада пра камету") усе чатыры песні Міхася Рудкоўскага вяртаюцца на кругі свае, да родных вытокаў і крыніц.

Як бачна, даволі шырокая геаграфія паэтычных пошукаў змусіла творцу шукаць і новыя формы падачы матэрыялу. Акрамя традыцыйных ямбаў і харэяў, ён карыстаецца верлібрам і белым вершам, дакладнай рыфмай і асанансамі, зломамі рытму і, як заўважыў У. Калеснік, "робіць гэта заўсёды з асцярогай, добраю мерай". Асвяжэнню зрокавых і славесна-гукавых вобразаў, ужыванню нечаканых метафар і алітэрацый садзейнічала плённая вучоба ў выдатных майстроў слова, творчае засваенне і асэнсаванне іх вопыту. Ды самым лепшым настаўнікам М. Рудкоўскага, вядома ж, была зялёная бацькоўская зямля, дзе і сам паэт у ляску над Начанкай-ракою знайшоў свой вечны прытулак.

**Як ціха! Спакой твой ніхто**
**і нішто не трывожыць.**
**Залётная хмарка**
**махне лебядзіным крылом,**
**Ды добрая птушка зязюля**
**вясной паваражыць.**

Тут, на роднай Ганцаўшчыне Міхась Рудкоўскі знаходзіў росныя, сакавітыя словы, "бы ягады на голлі брусніччыку"; яны, гэтыя словы, "асыпаліся па вечарах за вёскай зіхоткімі знічкамі". Дзесьці тут кожны свой верш, што прасіўся з сэрца, ён сустракаў, быццам салдата з яго "незарубцаванай ранай". Светлая, чыстая душа паэта, падняўшыся ў нябёсы, як птах, самотна кружыцца "па-над полем стомлена пакорным", над рабінай і "верасу дымком", над забытым з восені стажком, кружыцца, неспатоленая, "над ляском, дзе журацца крыжы..."

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

Выставы

# ЗВЫШПЛАНАВАЕ ЗНАЁМСТВА





Напачатку мая ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь пачала сваю экспазіцыйную працу адна асаблівая выстава. Справа ў тым, што гэта "звышпланавая" акцыя Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Мінску, бо нашы культурныя сувязі развіваюцца досыць плённа. Вось чаму адкрыццё выставы было такім цёплым і нязмушаным.

З прамовай на адкрыцці выступіў пасол КНР Чжао Сідзі, прысутнічаў таксама першы сакратар па справах культуры пан Чжоу Вэйцзюнь. Гаворка з кітайскага боку ішла аб сувязях Кітая са светам, вядомых яшчэ з часоў вялікага шаўковага шляху. Сувязі між народамі нашых незалежных краін павінны быць моцнымі, як шаўковая ніць, і не перарывацца нават на кароткі тэрмін. У знак гэтае надзеі пасол падараваў першаму намесніку міністра культуры РБ У. Рылатку памятны альбом. У сваім прывітальным слове сп. Рылатка выказаў думку, агульную для ўсіх нас, што цікавасць да старажытнага Кітая вельмі характэрна для нашага грамадства. Асаблівa каштоўным для нас з'яўляецца ўменне кітайцаў захоўваць і культываваць свае нацыянальныя традыцыі. Нам не абавязкова штучна мадэрнізаваць культуру з карэкціроўкай на "замежнае", калі нацыянальнае, традыцыйнае — невычэрпная крыніца эвалюцыйнага развіцця. Дырэктар музея Ю. Карачун таксама гаварыў аб тых сувязях, якія мае самая рэспектабельная і салідная выставачна-экспазіцыйная ўстанова Беларусі з пасольствам КНР, а праз яго — з музеямі і калекцыямі Кітая.

І нарэшце — пра змест самой экспазіцыі. Гэта не зусім звыклы і па сутнасці невядомы ў нас від мастацтва — карціны з жалеза, — інспіраваны старажытнейшым мастацтвам традыцыйнага жывапісу "куо хуа". Гэта мастацтва мае назву "тхей хуа" і ўяўляе сабою графічнае адлюстраванне на белым фоне разнастайных сюжэтаў. Але замест ліній, плям, пакінутых пэндзлем — лініі і формы, выкананыя з метала, выгнутыя, рэльефныя, бліскучыя, бо пакрыты славутым кітайскім чорным лакам. Здаецца, што малюнкі прыроды, вывы раслін, жывёл і птушак як бы ажываюць, пачынаюць натуральным чынам расці, аддзяляцца ад плоскасці паперы. Але трэба ведаць кітайскае пачуццё меры. Уменне дакладна перадаць натуральную форму, але без натуралістычнасці, ды яшчэ ў такой спецыфічнай тэхніцы, як коўка і іншыя тонкасці металаапрацоўкі, надае творам цудоўную завершанасць і высокі эстэтычны эфект. І хоць гэты від мастацтва карыстаецца толькі дзвюма фарбамі — чорнае адлюстраванне на белым, як некрануты снег, фоне — адценні асацыяцый тут невычэрпныя.

Натуральна, што мастацтва, якому ўжо 300 гадоў (пачаткі яго — ў прыдворнай культуры апошняй імператарскай дынастыі Цін) можа падацца нечым спецыфічным, цяжкім для адназначнага ўспрымання. Маўляў, лепей усё малююць на шоўку, чым імітаваць з дапамогай жалеза. Але, у адрозненне ад нас, жыхароў Беларусі, еўрапейцаў, як мы часам падкрэсліваем, кітайцы маюць свае адчуванне рытму часу, і перш чым за нешта брацца, добранька думаюць. То немагчыма паверыць, што такое працаёмкае мастацтва — толькі капрыз імператара.

Задумаемся над тым, што дае металаінтэрпрэтацыя для прачытання вобразаў кампазіцый слыннейшых мастакоў Кітая ад Гу Кайчжы (IV ст.) ды Цы Бай Шы і Сюй Бэй-хуна (XX ст.). Гэта ўвасабленне трываласці, пацвярджэнне вечнай моцы ўздзеяння таго вобразнага свету, што на тканіне ці на паперы можа здавацца крохкім, эфемерным. Метал як матэрыял, што ўвекавечвае даўнія мастацкія адкрыцці і стварае новыя (а не ідзе на гонку тэхналогій) — ці ж гэта не заклік да таго, каб нашыя культурныя повязі былі яшчэ мацнейшымі?

Думаецца, што нам сапраўды падчас не хапае Усходу з яго стабільнасцю, мудрасцю, натуральнасцю і шматграннасцю аблічча. А металапластыка тхей хуа, выкананая майстрамі вышэйшага класа Ван Сяолінам і Сун Яоцзынам і іх вучнямі, хай будзе для гэтага трывалым падмуркам, асновай далейшага культурнага абмену. Уражанне наведвальнікаў, бадай, найбольш ёміста выказала мастацтвазнаўца Л.Салавей, калі шчыра, не прафесіяналізуючы свайго выказвання, прызналася ў сваіх пачуццях: "Здаецца, я пачынаю жыць эмацыянальна паўнавартасна, калі бачу ў Мінску такія сведчанні неабсяжных культурных сувязей".

**Яўген ШУНЕЙКА**

*На здымках: першы сакратар пасольства Кітая ў РБ Чжоу Вэйцзюнь і намеснік міністра культуры У.Рылатка; адзін з экспанатаў выставы.*

*Фота Г. ЖЫНКОВА*

# "ПЕРШАЦВЕТ" ЗАЦВІЎ УПАРУ

Зборнік мясцовых народных песень "Першацвет" выйшаў у Петрыкаве.

На працягу некалькіх гадоў супрацоўнікі раённага навукова-метадычнага цэнтра культуры запісвалі песенны фальклор ад лепшых вясковых спевакоў і пяюх. Адказная за выпуск кнігі метадыст РНМЦ Алена Буднік адабрала для публікацыі 79 найбольш аўтэнтычных твораў.

Найбольш поўна прадстаўлены фальклор вёскі Бяланавічы. Ажно 12 песень запісана ад 90-гадовай П. Музыкі. Сярод іх — любоўныя, вясельныя, радзінныя, жартоўныя, калядныя, рэкруцкія. Яшчэ шэсць вясельных наспявала на "плёнку" група жанчын.

Шмат непаўторных песень ведаюць Н.Позур і К.Агейчык (Церабаў), Н.Сакавец (Кашэвічы), Х.Коўгар (Першая Слабодка), А.Яцук (Смятанічы). Досыць шырока прадстаўлены тэматычна рознымі песнямі вёскі Славінск і Курыцічы.

Самай старэйшай аўтаркай зборніка стала 105-гадовая жыхарка Баклані К.Аўдзеева, ад якой запісаны малавядомыя "Песня-жалоба" і "А мой бацьхно-квет".

Ёсць носьбіты фальклору і сярод мужчын. Гэта найперш П.Азёма з Сярэдняй Рудні.

Пакольکі галоўнай мэтай было прадставіць аўтэнтычныя песні Петрыкаўшчыны, то А.Буднік (дарэчы, сама родам з Віцебшчыны) пастаралася захаваць іх моўныя асаблівасці. На жаль, вясковая мова з часам даволі адчувальна урбанізуецца і калькуецца пад уплывам рускай.

Шмат працы ўклалі ў кнігу і выкладчыкі гарадской дзіцячай музычнай школы Г. Смірнова і В. Шчучэнка, якія зрабілі і падрыхтавалі да друку нотныя расшыфроўкі песень.

Кніга выдадзена ў Мазыры, мае арыгінальную каляровую вокладку. Яна стане добрым падарункам аматарам вуснай народнай творчасці. Шкада толькі, што тыраж невялікі — усяго 500 экземпляраў.

**А.ЛАРЫЁНАЎ**

**Калектыў і рэдкалегія часопіса "Нёман" выказваюць глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару КУДРАЎЦУ Анатолю Паўлавічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

**Рэдакцыя часопіса "Полымя" выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару часопіса "Нёман" КУДРАЎЦУ Анатолю Паўлавічу ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю маці.**

# ХАРАСТВО ЗЯМЛІ, ПРЭСТЫЖ КРАІНЫ

## З ПЕРШАГА МІЖНАРОДНАГА ПЛЕНЭРА ІМЯ БЯЛЫНІЦКАГА-БІРУЛІ

Новы час адчуваецца ў Мінску не так выразна, як у Вільні, а ў Магілёве не так, як у Мінску, але — адчуваецца. І ў Магілёве самая папулярная шыльда на вуліцах — "Абмен валюты", самыя прыгожыя вітрыны — у камерцыйных крамах, а самыя добраўпарадкаваныя будынкі тыя, дзе размясціліся офісы прыватных фірмаў. А ў астатнім горад той жа, што і дзесяць альбо пятнаццаць гадоў назад.

У перадваенны час у Магілёў збіраліся перанесці сталіцу Беларускай ССР, пачалі будаваць новы гарадскі цэнтр. Зрабілі Дом Саветаў па ўзоры Мінскага Дома ўрада, жылы комплекс для наменклатуры, сякія-такія культурныя аб'екты, знішчылі мноства храмаў (каб не псавалі аблічча "сацыялістычнага горада"). Але — змянілася геапалітычная сітуацыя. У 1939 годзе мяжа СССР (і, адпаведна, БССР) пасунулася на захад, і Мінск, які дагэтуль быў фактычна ля мяжы, апынуўся ў цэнтры БССР. Патрэба ў пераносе сталіцы знікла.

Не стаў Магілёў "стольным градам", але амбіцыі — засталіся. І гэта добра. Тым болей, што гісторыя горада дае магілёўцам падставы для гонару. У Вялікім княстве Літоўскім гэта быў другі па прыгажосці горад пасля сталіцы — Вільні. А росквіт быў абумоўлены тым, што горад меў статус, так бы мовіць, "свабоднай эканамічнай зоны" на падставе дараванага каралём і вялікім князем прывілею за мужнасць і гераізм пры абароне Айчыны ад маскоўскага нашэсця 1661 года.

Праўда, нядоўга красаваў Магілёў — яго дашчэнту спалілі войскі Пятра Першага ў часе Паўночнай вайны ў 1708 г. Ад былой велічы засталіся толькі Мікалаеўская царква і сабор святога Станіслава — праваслаўны і каталіцкі храмы. Абодва, дзякуй Богу, перададзены вернікам. У храме святога Станіслава ўжо некалькі год запар ладзіцца міжнародны фестываль духоўнай музыкі "Магутны Божа". Гэту культурніцкую акцыю ўжо немагчыма ўявіць у іншым месцы, акрамя як у Магілёве.

Сёлета ж Магілёў зноў сустрэў замежных гасцей і беларускіх творцаў, толькі іншага "цэха" — мастацкага. У горадзе і вобласці праходзіць Першы міжнародны пленэр па жывапісе імя Вітальда Каэтанавіча Бялыніцкага-Бірулі. Ганаровыя госці пленэра Гаўрыла Вашчанка, Віктар Грамыка, Георгі Паплаўскі (Беларусь) і Павел Абросаў (Расія). Кожны з іх падарыў абласному мастацкаму музею свой твор. На адкрыцці прысутнічаў наш вядомы пісьменнік, даследчык жыцця і творчасці Бялыніцкага-Бірулі Віктар Карамазаў, дыпламатычныя прадстаўнікі Літвы і Расіі, кіраўніцтва горада і вобласці, супрацоўнікі Міністэрства культуры.

Атрымалася так, што ад імя гасцей Беларусі на ўрачыстай імпрэзе гаварыў народны мастак Расіі П. Абросаў. У нейкай ступені — на правах старэйшыны, бо належыць да кагорты так званых "шасцідзесятнікаў"; тых, што ў свой час здзейснілі "аксамітную рэвалюцыю" ў "сацыялістычным рэалізме". Павел Абросаў — прадстаўнік "суровага стылю" ў жывапісе. Сэнс ягонай прамовы зводзіўся да таго, што сёння мастакі — удзельнікі пленэра — не распачынаюць нейкай новай справы, не ладзяць ніякай культурнай ці яшчэ якой там інтэграцыі, а робяць тое, што рабілі заўжды. Бо культурная прастора заўжды адзіная, яе немагчыма падзяліць дзяржаўнымі межамі, гэтаксама як і немагчыма гвалтам пашырыць альбо звузіць у адпаведнасці з жаданнем таго ці іншага палітыка, таго ці іншага ўрада.

Пасля выступлення спадара Абросава словы з прамоў нашых дзяржаўных чыноўнікаў пра"інтэграцыю з Расіяй", "славянскі пленэр" (тады што робяць на Магілёўшчыне мастакі з Літвы і Францыі? — хацелася запытацца) і гэтак далей гучалі пэўным дысанансам. Зразумелае іх жаданне лішні раз падкрэсліць сваю адданасць афіцыйнай палітычнай дактрыне, але — пры чым тут мастацтва?

Між тым, думкі расійскага госця аказаліся вельмі сугучнымі развагам Гаўрылы Вашчанкі і Віктара Грамыкі аб значэнні нацыянальнага пачатку ў мастацтве, аб культурным абмене, які не мае нічога агульнага з размываннем культур; аб тым, што з асобных, самабытных культур складаецца культура агульначалавечая.

У дзень адкрыцця пленэра госці Магілёва мелі магчымасць азнаёміцца з горадам. Вёў экскурсію дырэктар Магілёўскага музея гісторыі горада Ігар Пушкін. Музей дагэтуль не мае свайго памяшкання і нагадвае аб сваім існаванні тым, што час ад часу дэманструе скарбы сваіх фондаў то ў адным, то ў другім выставачным памяшканні. Гэтым разам экспазіцыя па гісторыі Магілёва была размешчана ў мемарыяльным музеі Бялыніцкага-Бірулі. Для большасці ўдзельнікаў пленэра творы славутага мастака з Магілёўшчыны даўно вядомыя (прынамсі, у Расіі ці не ў кожным больш-менш прыстойным музеі абавязкова ёсць ягоныя палотны), але, сабраныя ў вялікай колькасці, яны ствараюць абсалютна непаўторны шматпланавы вобраз зямлі, што натхняла Вітальда Каэтанавіча.

Складаныя пачуцці выклікала асабіста ў мяне (ды і не толькі ў мяне) наведанне праваслаўнай Мікалаеўскай царквы і каталіцкага сабора святога Станіслава. Як ужо адзначалася, абодва храмы дзеючыя. Уражанне такое, што магілёўскія ўлады (а мо рэспубліканскія?), аддаўшы храмы вернікам, забыліся, што гэта архітэктурныя помнікі агульнанацыянальнага і нават агульнаеўрапейскага значэння, і цяпер абсалютна абыякавыя да іх далейшага лёсу. Назваць тое, што зараз робіцца з храмамі, рэстаўрацыяй, значыць увесці людзей у зман. Так, напрыклад, "праваслаўныя" будаўнікі па каменьчку разабралі тое, што засталося ад жылых памяшканняў (манашаскіх келляў), разбурылі барочны фасад, а ўзамен узвялі келлі з... белай сілікатнай цэглы. А ў храме святога Станіслава мастакамі Алесем Пушкіным і Феліксам Янушкевічам на месцы страчаных фрэсак зроблены шэраг новых, стылістыка якіх, як мне падаецца, кепска стасуецца з архітэктурна-пластычным ансамблем храма. Хацелася б ад сучасных мастакоў, якім так пашчасціла з "аб'ектам", большай павагі да папярэднікаў.

З прыемных уражанняў — рэстаўрацыя і адначасова рэканструкцыя будынка гарадскога тэатра. А спектаклі пакуль ідуць у колішнім Доме палітасветы, што насупраць. Увогуле ўстановы культуры ў горадзе размешчаны ў будынках, што ў 1991 годзе былі экспрапрыіраваны ў камуністаў і вернуты народу. Добрая практыка, рацыянальнае скарыстанне!

Пасля заканчэння пленэра ўзбагаціцца калекцыя абласнога Мастацкага музея. Ён носіць імя Паўла Васільевіча Масленікава, народнага мастака Беларусі. Творы Масленікава, падараваныя гораду, паклалі пачатак музею. Гарадскія ўлады знайшлі грошы, каб выдаць альбом твораў Паўла Васільевіча; альбом, які стаў візітнай карткай абласнога мастацкага музея і, у пэўнай ступені, горада Магілёва (спытайце якога заўгодна мастака, чаго каштуе сёння выдаць звычайны каталог, не кажучы пра альбом). Сваім настаўнікам П. Масленікаў лічыў прыроду і Бялыніцкага-Бірулю — творца, які як ніхто адчуваў беларускую прыроду. Альбом Масленікава атрымаў у падарунак кожны ўдзельнік пленэра. Хацелася б спадзявацца, што і сам пленэр, лепшыя творы мастакоў розных краін, напісаныя на Магілёўшчыне, будуць асэнсаваны нашай мастацкай крытыкай; што па заканчэнні пленэра з'явіцца альбом каляровых рэпрадукцый, не горшы, чым на Шагалаўскім пленэры. Гэта будзе знакам таго, што і ў скрушны час мы не забываемся пра вечнае, пра харастқа зямлі, пра прэстыж краіны.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Пошта

# НЕ БУДЗЕ БЕЛАКРЫЛАЙ ЧАЙКІ...

Расійскія сродкі масавай інфармацыі, і ў першую чаргу газеты, даюць вельмі скупую і ў значнай ступені негатыўную інфармацыю пра маю Бацькаўшчыну... І ўсё гэта звязана з прэзідэнтам Лукашэнкам. Маўляў, ён "поставил прессу под свой жестокий контроль". Ды і іншыя факты з асабістага жыцця Аляксандра Рыгоравіча, накшталт таго, што будуецца помнік першаму прэзідэнту ў яго вёсцы і г. д.

Шмат матэрыялаў расійская прэса прысвяціла стварэнню Новай дзяржавы і прытым вельмі падкрэслівала, што гэта — раўнапраўны саюз двух славянскіх народаў.

Ну, тое, што ён не будзе раўнапраўны — гэта аксіёма. Расія ёсць Расія, яе ўплыў адчуваўся і пры савецкай уладзе, а, як вядома, там былі і ў яе апаненты, скажам так, "в лице" Украіны...

Жывучы доўгі час у Расіі, маючы добрых і сардэчных сяброў, а яны амаль усе рускія, я з усёй адказнасцю магу сказаць, што для рускіх характэрна пачуццё сваёй нацыянальнай годнасці. У гэтым яны падобны да амерыканцаў. Тыя лічаць, што няма больш іншай нацыі, акрамя іхняй, па сваім прызначэнні ў сусветнай гісторыі. Гэта самае ўласціва рускім.

Гэта нязначны факт, але ён, на мой погляд, красамоўны. Некалькі дзён назад я сярод сваіх сяброў сказаў жартам, што ў хуткім часе на дзяржаўных установах Расіі з'явяцца шыльды на беларускай мове, бо Новая дзяржава — гэта дзяржава двух народаў, дзе яны маюць роўныя правы. Трэба было бачыць абурэнне маіх сяброў...

Але не гэта галоўнае. Галоўнае тое, што аб'ядналіся дзве бедныя дзяржавы, але рускія не без падставы лічаць, што беларусы яшчэ бяднейшыя за іх, і што палітыкі навязалі ім гэтую Садружнасць. Аб гэтым яскрава напісаў у "Литературной газете" дырэктар Інстытута эканамічнага аналізу Андрэй Іларыёнаў. Ён прама піша, што ў гэтым саюзе ў "выигрыше оказалась" Беларусь і што беларусы селі на карак рускім...

Я ўвогуле стаю за самы цесны саюз з Расіяй, але можа здарыцца так, што калі надзеі рускіх на ўтварэнне Новай дзяржавы (накшталт былога Савецкага Саюза, аб гэтым прама гаворыць Віктар Чарнамырдзін) не здзейсняцца, то "во всех бедах" пачнуць вініць беларусаў. Такое ж самае можа адбыцца і з беларусамі... Як гавораць, дай Божа памыліцца.

Асабіста мяне здзіўляе "наивность" беларусаў, якія лічаць, што толькі варта аб'яднацца з Расіяй, як пацякуць у іх бок малочныя рэчкі ў кісельных берагах. Хуткімі тэмпамі будзе ліквідоўвацца чарнобыльская бяда, нафтапрадукты будуць таннымі і што можна будзе выліваць бензін у зямлю, як некалькі год таму назад. А самае галоўнае — запрацуюць заводы-гіганты, камвольныя камбінаты, і хлеб будзе каштаваць, як у савецкія часы...

Я заўсёды, калі слухаю "Радио России" альбо мурманскае радыё, то вельмі хачу, каб яно, г. зн. радыё з Расіі транслíравалася на Беларусь. І калі гэта здарыцца, тады мае землякі пачуюць, якое жыццё простых людзей у Расіі.

У краіне ўтварыўся вялікі разрыў паміж багатымі і беднымі, а апошніх тут вельмі многа. Камандуючы Арктычнай пагранічнай акругай генерал-лейтэнант Пляшко (дарэчы, ён беларус) загадаў паставіць навабранцаў "на откорм", бо салдаты фізічна не ў стане выконваць свае абавязкі.

Гэтай зімой амаль усе гарады Мурманскай вобласці "стояли на грани замерзания", бо не было паліва. Яно то ёсць, але за яго патрэбна плаціць... А колькі выпрабаванняў прыходзіцца "испытывать" простым людзям, калі месяцамі не плацяць зарплату.

Можна прыводзіць процьму фактаў, але калі браць у маштабе Расіі, то варта адзначыць, што прамысловасць ледзь-ледзь трымаецца. Падзенне творчасці не мае аналагаў. Так, за перыяд з 1990 па 1994 гады прадукцыя машынабудавання знізілася на 60%, лёгкай прамысловасці — на 70%.

Як сведчыць расійская прэса, стаяць буйнейшыя бавоўняныя фабрыкі, камбінаты ў Іванаўскай, Валгаградскай абласцях. Некаторыя ткачыхі канчаюць жыццё самагубствам "от безысходности". Няма бавоўны. Яна то ёсць, але зноў жа — за яе патрэбна плаціць. Толькі вось чым? Тая прадукацыя, што выпускаецца ў Расіі, не падыходзіць, к прыкладу, Туркменіі. У друку паведамлялася, што гэта рэспубліка адмовілася ад камбайнаў, зробленых на заводах Расіі, а стала купляць іх у ЗША.

Надзеі машынабудаўнікоў Беларусі, што іх прадукцыя будзе знаходзіць попыт у Расіі, таксама вельмі праблематычныя. Бо рынкі Расіі насычаны сваёй прадукцыяй. Толькі плаці і адразу паставяць куды толькі скажаш. Зноў падкрэсліваю: мы зараз жывём у новым свеце, у новых вытворчых адносінах. Тое, што было ў Савецкім Саюзе, трэба забыць і вучыцца працаваць у новых умовах.

Сельская гаспадарка Расіі натуралізуецца, не вытрымліваючы канкурэнцыі з імпартам.

Сусветная навука лічыць, што калі краіна спажывае 30% імпартных прадуктаў харчавання, то яна трапляе ў стратэгічную залежнасць ад імпарцёраў. Расія зараз купляе каля 40% спажываемых прадуктаў харчавання, а буйнейшыя гарады, нашталт Масквы, на 70% залежаць ад паставак прадуктаў з-за мяжы.

Як вядома, "видимое благополучие" расіян звязана з імпартам газу і нафты, але і іх ужо не так шмат. У некаторых раёнах Валгаградскай, Растоўскай, Саратаўскай і іншых абласцей ціск газу ў камунальных сетках настолькі ўпаў, што людзі ўжо не здольны рыхтаваць сабе ежу.

На рэферэндуме, які прапанаваў Аляксандр Рыгоравіч, мае землякі падтрымалі яго. Але глыбока ўпэўнены, што хутка наступіць расчараванне. Замест белакрылай чайкі, якую чакаюць мае землякі, можа атрымацца цяжкавагавы састаў.

Расійскія эканамісты прама гавораць, што пры "благоприятных условиях" (а спакой, як заўважыў паэт, нам толькі сніцца: тут Чачня, Таджыкістан, і крый Божа, каб іншага не было) узровень жыцця ў Расіі больш-менш спрыяльным стане праз 30-40 год. Гэта будуць гады, калі Аляксандр Рыгоравіч пойдзе на пенсію. У яго, як і ў іншых кіраўнікоў, ёсць жаданне кіраваць да свайго васьмідзесяцігоддзя...

На мой жа погляд, гэта вельмі аптымістычныя выкладкі рускіх вучоных. Гадоў трыццаць таму я, як і мае аднагодкі, думаў, што на падыходзе пенсіі жыццё стане лепшым, чым яно тады было. Не, я асабіста не верыў у пабудову "светлай будучыні", але верыў у паступальны ход гісторыі. Хутка мне ісці на пенсію, а жыццё лепшым не стала...

Зараз усе гавораць пра рэформы, і просты народ не ведае, што гэта такое. І што яны дадуць яму. Не ведаюць добра і самі рэфарматары. Як вядома, рэформы Гайдара прывялі Расію не да заходняга "образца", а да лацінаамерыканскага, толькі яшчэ ў горшым варыянце. Выйшла так, як любіць гаварыць Чарнамырдзін: хацелі зрабіць лепш, а выйшла, як заўсёды, горш.

У такой сітуацыі нельга чакаць пастаяннага паступальнага ходу рэформ. А калі так, то чакае нас вельмі і вельмі цяжкі шлях. Цудоўных адказаў, што падказваюць імгненныя рашэнні, не існуе. Хаця на вышынях дзяржаўнай улады існуе думка, што дастаткова знайсці ўдалую канцэпцыю, знайсці здольнага чалавека, і гэта дазволіць за два-тры гады выйсці з ямы, у якую мы праваліліся. На самай справе, выхад з сучаснага становішча, як указваюць вядомыя эканамісты, патрабуе доўгага часу. Мы нават не зможам пачаць рух у гэтым напрамку, пакуль не зменім нашы ўнутраныя ўмовы. А гэта звязана ў першую чаргу з ашчаднасцю, а таксама з культурай вытворчасці як у прамысловасці і сельскай гаспадарцы, так і ў адносінах паміж сабой. Гэтыя рысы фарміруюцца ў людзях тым мацней, чым больш яны знаходзяцца ў тым асяроддзі, у якім жывуць. А жылі мы і ў царскай Расіі, і ў савецкі час, дзе дзейнічаў адзін прынцып: "и все вокруг колхозное, и все вокруг мое". Іншымі словамі, утварыўся ў нас ген "дай", а дзе яго ўзяць — ніхто не думае...

**Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ**

*Мурманская вобласць, г. Манчагорск*


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х. Дунец* | (1932-35) |
| *І. Гурскі* | (1935-41) |
| *А. Куляшоў* | (1945-46) |
| *М. Горцаў* | (1947-49) |
| *П. Кавалёў* | (1949-50) |
| *В. Вітка* | (1951-57) |
| *М. Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я. Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н. Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л. Прокша* | (1969-72) |
| *Х. Жычка* | (1972-76) |
| *А. Асіпенка* | (1976-80) |
| *А. Жук* | (1980-86) |
| *А. Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:** Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,* Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 331-985**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7332.
Нумар падпісаны 30.5.1996 г.
Заказ 2652/Г

П 123456789 10 11 12
М 123456789 10 11 12